...Гэты лёс, гэты ўскрык жураўліны
І прасцёртага шляху далонь.
Будзе сёлета многа каліны,—
Закіпай жа, сардэчны агонь!

Яўгенія Янішчыц

## СВЯТЛО



Гордая, нуртуе кожнай жылкай
Пад ільдом вячыстая рака.
...Будзе біцца сонная сняжынка
Крыльцамі сляпога матылька.

Выйдзем у раскошную нядзелю,
Покуль свята блізіцца здалёк.
Пэўна, я цябе не абнадзею,
Як вось гэты лёгенькі сняжок.

Дай мне шляху, што будзілі продкі!
Праплыла яшчэ палоска дня
Белым крыллем спуджанай лябёдкі,
Белай грывай быстрага каня.

Расцалуй да чыстых слёз, да смеху,
Пальчыкі азяблыя сагрэй.
...Светла як ад ранішняга снегу,
Толькі ад вячэрняга — святлей.

* * *

Арліны храм. Узмежак беразовы.
І твар сялянкі жытна-верасны.
Усё ў адным злілося пэразове —
Нашэсце грому, ласкі і вясны!

Шугнула жыта там, дзе спелі кулі,
Дзе рацць у рацць ішлі на смерць сыны.
Усё ў адным трывожна-гордым гуле:
Нашэсце птушак, думак і віны.

Чый светлы цень гукаецца ў бярозе,
Чыё не ўстала з попелу сяло?
Мы пасядзім з табою на парозе,
Мой крохкі боль і ціхае цяпло.

Франтавікі, Баяны, аднасельцы,
Насельнікі аблок і гарадоў...
Усё ў адным шчасліва-горкім сэрцы:
Гісторыя. Трагедыя. Любоў.

* * *



Зялёныя ігольчатыя сосны.
Наплыў неўтаймавальніцы-вясны.
Ды вырастаюць крохкімі па вёснах
І — не па летах! — бледныя сыны.

Накормлены, здаецца, і сагрэты,
І цела ад работы не шчыміць.
А я травы пытаюся ў кабеты,
Я ўжо сама гатова варажыць!

А можа, гэта проста ад дакукі,
Ад апантаных модаю людзей?
Няпраўда, ах, яны ж грызуць навуку,
Яны у курсе спорта і падзей!

Мне сто разоў бяссільнай быць і дужай,
Збіваць агонь у вогненнай крыві.
...Ды хлопчыка з купалаўскаю ружай
Ты, Беларусь, як сына, блаславі!

## ТУТ



Ой, пры каліне чырванашчокай
Ды пры даліне зялёнай — сяло.
Знаю, ні ў якай старонцы далёкай:
Тут мне якраз нарадзіцца было!

Ўслухайся ў назвы: Яголін, Агова,
Гойнава, Гуслікі, Горбень, Звінчо —
Тут, дзе ласкава паверацц на слова,
Але праверацц затым на плячо.

Тут, дзе і бондар раскошны, як бочка,
Дзе вырастаюць на жылах лясы
І — дзе сялянка над прахам сыночка
Ў горкім бяссіллі ірве валасы.

Тут, дзе хапае да хлеба і солі
І на сталах не канчаецца мёд.
Тут, дзе не скончыцца песня ніколі
І не ўпадзе на калені народ!

## ПАСЛЯ ВАЙНЫ

Я на кіно ў бацькоў дазволу клянчу.
Пасу гусей ў разлётнай чарадзе.
Мой залаты, мой рэзкі свет дзіцячы:
Мятлушкі сон і чэрапы людзей.

Яшчэ пякуць нясцерпна пахаванкі,
Але жыццё вяшчуе немаўля.
Стрыгуць авечак рупныя сялянкі —
І пухам усцілаецца зямля.

Я кніжкі ўсе чытаю па парадку:
Пра рыцараў, пра жахі, пра любоў.
А цыганы апошнюю апратку
Выманьваюць без сораму ва ўдоў.

Скідае фрэнчы пыльная Еўропа.
Сусед бязногі едзе на кані.
А там, на дне смярдзючага акопа,—
Малінніку дражнючыя агні.

## САЛДАТКІ



Таптали ржышча, секлі буралом,
Жыццём масцілі горасныя кладкі.
Усё радзей за песенным сталом
Збіраюцца трывушчыя салдаткі.

На сукнях адгарэла мурава...
Каторы раз паўторыць цётка Ліда:
«А мой, што пад Берлінам, ў дваццаць два —
Няхай бы хоць вярнуўся інвалідам».

Ах, прад'явіць каму палын-віну?
Другая скажа так, што шэрхне цела:
«Кляну вайну. І Колечку кляну,
Бо лепш яго — нікогачкі не мела».

Счапіўшы рук шурпатых вузлякі,
Адна адной зірнуць балюча ў вочы.
«Не выпалі нам, бабы, мужыкі».
«Не выпалі...» — замужнія прамоўчаць.

## БАЛАДА КАЛОДЗЕЖА

Ветлым сонцам ці шчасцем сагрэта?
Што прымчаў мяне — дзякуй, цягнік!
Упляло ў маю косаньку лета
Сіняй Ясельды пекны каснік.

Поўна ўцехі. І песень даволі.
Боль струшу з ацяжэлых павек.
Сіўку-бурку гукну ў чыстым полі! —
Выйшаў з поля дзівак-чалавек.

«Што шукаеш? — спытаўся нядобра.—
І гукаеш каго праз гады?»
Хлеб дастаў ён са зрэбнае торбы
І не даў мне напіцца вады.

«Лунь,— кажу,— а дзівак вы, дый годзе!»
Пасміхнуўся ў адказ мне стары.
Ой жа доўга шукала калодзеж —
Напаткала аж цэлыя тры.

Першы мохам аброс. А ў другога —
Памуцілася памяць да дна.
А праз трэці пралегла дарога,
Як па Луні сівым — даўніна.

# ПАЎНОЧНАЯ ЗАРА



Не шлях сюды,
а лёс мяне вяртае,
Хоць і кажу: «Забыць, забыць пара!»
Але пяе на небе залатая
Адзіная паўночная зара.

Жаданне абарвецца і растае,
Размые след вясновая быстра.
Але цвіце на небе залатая,
Высокая трывожная зара.

У час такі — не час для раздарожжа.
Гукай мяне, паэзіі сястра!
О, як звініць апошняя, бязбожная,
Кароткая і позняя зара!

І тут, дзе радасць дыхае вясною,
Дзе Млечны Шлях спадае на зямлю,
Я светла прыпаду да дзеяслова
Твайго,
з маёй слязінаю — «люблю».

* * *

Так п'ю з крыніцы, быццам не піла,
Не прыпадала да сцягі-бяглянкі...
Няўжо даўно так дома не была:
Асвер зламаўся. Выцвілі фіранкі.

Галосны самы, сціх канец сяла.
Мірэй Мацье і Чэлентана ў модзе.
Няўжо даўно так дома не была:
Стамілася раджаць зямля ў гародзе!

Занадта стаў шырокім круг стала,
Сама ў сабе замкнулася радзіна.
Няўжо даўно так дома не была:
У спальні мамы — пах валакардзіну.

Сарокі сціхлі ўсе, да аднае...
Глынуўшы шлаку, прыхварэла рэчка.
І цар-гусак мяне не прызнае,
А я яго баюся недарэчна.

* * *



Поўнік у акне. Святло і ціш.
Двое нас у ціхамірнай хаце.
— Мама, ты чаму ж усё не спіш?
— Сон адзін і той жа, як закляцце.

Прыхіну падушачкі хатуль.
Цёпла мне. І ўсё-ткі — замярзаю.
— Мама, ён жа мёртвы і адтуль?..
— Не скажы! Магілы я не знаю.

На прыгожы твар праклаўся шлях
З нітачак спакою і адчаю.
— Мама, гэта ноч нагнала страх.
— Спі. А я — лучынкі нашчапаю.

## ПАВЕЛ І НІКАН

Парадпюся з палын-цішынёй,
Свет не ўвесь бессардэчна-бязлікі.
...Памагаюць матулі маёй
Два апосталы — Павел і Нікан.

Першы ўмела кіруе канём,
Спраўна ходзіць сякерка ў другога.
Зелянее жытцо пад акном,
Пахне лесам у хаце падлога.

А калі спорны дзень прамільгне,
За сардэчнай і ціхай вячэрай —
Павел чорны канцлагер кляне,
Грозіць атаму Нікан сякерай.

Паласнуць, як па сэрцы, агнём,
Дзве аповесці ў сумным гуморы.
...Ападаюць, цвітуць за акном
Зоры гневу і вечнасці зоры.

## ЯК НАЗЫВАЮЦЦА СЛЁЗЫ

Попел і чорныя цені майна.
Вые у комінах скруха.
Як называюцца слёзы? —
Вайна.
        Смерць.
                Галадоўка.
                        Разруха.
Спее сусветнага жаху града.
Хто пазбірае каменне?
Як называюцца слёзы? —
Бяда.
        Здрада.
                Разрыў.
                        Адчужэнне.
Мілы, мы знялі кахання палын,
Трушчыць як сэрцы — самота.
Як называюцца слёзы? —
Святлынь.
        Радасць.
                Здзіўленне.
                        Пяшчота.
Крэўнасць зарук, нібы іскры з кастра...
Свеце бянтэжны мой, дзе я?
Як называюцца слёзы? —
Сястра.
        Маці.
                Планета.
                        Надзея.

## САВА І МАРЫЯ



Мой паклон табе сардэчны, хата
(Дзякуй, што і я ў гасцях была!).
...Зберагаў хто серабро і злата,
А Марыя Саву берагла.

Колькі часу лютая стыхія
Апякала вогненнай вайной...
Гарачыўся: «Кінь мяне, Марыя!
Як са мной — то лепш ужо адной».

А Марыя ветла ўшчувала:
«Саўка, не іграй, нібы ў кіно».
Мыліцы паспешна падавала,
Адчыняла ў белы сад акно.

І дарожак збітых не лічыла,
Чорны скарб трымаючы ярма.
Колькі год прайшло з тае, Айчыннай —
Гэтулькі! — адхлання ім няма.

Секане па сэрцы слова «тата».
Слова «мама» — громам ля вушэй.
Сцеражэ хто серабро ды злата,
А Марыя — Саву сцеражэ.

Ой, вы косы доўгія, сівыя,
Ой ты, сукні выцвілай скалых!
Як малітву: «Сава і Марыя!»
Вымаўляю я імёны ўслых.

Калі хто пра серабро ды злата
Мысліць у чаканні перамен,

Вашая,
          над Ясельдаю,
                              хата
Перад цэлым светам, як рэнтген.

Калі сэрца падае ў адчаі
І трасе мяшчанскі землятрус,
Вашымі бяссоннымі вачамі
На мяне глядзіцца Беларусь.

Ой, вы ночы доўгія, глухія,
Думак неадольных асаўё!
Гой, ты доля — Сава і Марыя —
Прычашчэнне церпкае маё.

# ПРА БАЛОТА



Сеўшыя ў вышынныя дамы,
У хвіліны сельскага натхнення,
Колькі вершаў напісалі мы
Пра балота і пра асушэнне.

Фауны і флоры каралі,
Хворыя на сытасць і на тупасць,
Колькі дысертацый вы спяклі
На прадмет балота: за і супраць.

Колькі мудрых і дарэмных слоў
Прыняло Палессе без правіны.
Помню, чорных ведала буслоў
І пад снегам помню журавіны.

Ніцыя, лазовыя кусты,
Вас чапаць на кошыкі любілі.
Па азёрах сініх і густых —
Помню, рыбу вёдрамі лавілі.

Добра помню, як сказалі дзве
Цёткі,
        стрэўшы прышлага аднойчы:
«У яго трасун у галаве.
У яго пустыняй пахнуць вочы».

# ПРА НАЗВЫ



Ах, вёсачкі акружныя:
Жытцо, лянок, авёс...
Брыльянтава, Жамчужнае...—
Які ж вас цар прынёс?

Дыхне прастор марозамі,
А шыльдачкі падрад:
Малінаўка... Бярозаўка...—
Суцэльны плагіят!

З сярпочкамі ды з віламі,
З кажнюткага жытла —
Тут вёсачка Цярпілаўка
Спявала і жыла.

Нібыта з мудрай свахаю
Свой дзелячы сакрэт,
Я з вёскай Гаравахаю
Ішла ў вялікі свет.

Чакайлаўка ды Блінная...
Мой дружа, бы ў жальбе,
Мясцінамі былiннымі
Я правяду цябе.

Там дзецюкі аршынныя,
Там свацейкі гудуць...
Там дзеўкі з Харашылава
Ў Залюбічы ідуць!

## НОЧ НА ПРЫПЯЦІ

Авёс паспелы на далоні.
І поле — мілае да слёз.
Стрыгуць траву начныя коні,
Ды будзіць Прыпяць цеплавоз.

Усё яшчэ... Яшчэ — не ўчора.
Але з якіх глухіх начэй
Мне зазірае ў вочы воран
Бязлітасна, нібы кашчэй.

Яму — пад сто. Яму не спіцца.
Дый мне сягоння не заснуць.
І трызніць закахана Прыпяць,
І воды плыткія пяюць.

Усё яшчэ як на далоні:
Падкоўкі дзён, каралі рос.
Але ляцяць у бездань коні
І рас-
сы-
па-
ецца
авёс.



## ВУЗДЭЧКА І ШУМЁЛЫ

*Год 1953-ці, хутар*

Сыпле жартам дзед сівы, вясёлы,
З рук не выпускаючы лямеш:
«Брат, вазьмі, хар-рошыя шумёлы!
А каня — як-небудзь завядзеш.
Бо сынкі звілі ў агні гняздзечка,
Клікаў іх — адтуль не дазавеш.
Брат, вазьмі, хар-рошая вуздэчка!
А каня — як-небудзь завядзеш.
Чую, што канчаецца дарога,
Дык таму й баюся за тавар!..»

Каб не крыўдзіць голуба сівога,
Бацька мой прыняў ад дзеда дар.

Век сталёвы, век трывожна-кволы,
Ды як прошлай радасці званец —
На гарышчы зазвіняць шумёлы
І вуздэчка заіржэ з сянец.

# ІМЯ ПА БАЦЬКУ

Ты дзесяць год забыў мяне, якую
Нанова мне вяртае новы час.

Ты дзесяць год завеш мяне па бацьку,
Нібы тым самым знаеш аддаленню
Халодную і жорсткую мяжу.

Ну што ж, з таго ні горача, як кажуць,
Ні холадна, павер, даўно і мне!

Прысніцца ноччу мне святы Іосіф,—
дакладней, цесля
і вясковы бондар,—
а гэта значыць родны бацька мой.

Ён паглядзіць, ці не ўчарнелі рамы,
Ці дзверы не рассохліся ў кватэры,
Ці не рыпяць сасновыя масніцы,
Ці ёсць для свята месца на куце.

І покуль ты завеш мяне па бацьку,
І покуль я яшчэ жыву на свеце,
Яго ніяк я не ўяўляю мёртвым —
Я плоць яго, нявыветраны дух!

## НЕСЛУХ

*Вёска, 1963—198... гады*

Што й казаць, а Сымонка быў юркі!
Дакарала матуля ў вячэрняй мальбе:
«Ах ты, неслух, ізноў на штанах тваіх дзюркі!
І супынку ж няма на цябе!»

Аціхаў верабейка няўтольны і шумны,
Апускаў долу вочы ў дзіцячай гурбе:
«Як жа можна, сыночак, парваць так кашулю!
І супынку няма на цябе!»

Быў гарэзны Сымон. І агніста ўсміхаўся,
Покуль маці ізноў не журыла ў мальбе:
«Божа мой! І ў каго ты, Сымоне, удаўся!
І супынку ж няма на цябе!»

Час мінуў. І Сымона счакалася хата.
Словы джалілі маці не раз, як асцё.

Ён служыў. І ўзарвалася — з сэрцам! — граната.
І супынку не знала жыццё.

## ДУНЯ



Ні сябе адстояць, ні ўхваліць
Не магла аціхлая гарбунка.
Кожны шмэндрык мог яе чапіць
І ўкалоць па-местачкоўску: «Дунька».

Йшлі радочкі звыклага жыцця,
І яна гукалася на словы:
«Дуня, паглядзі маё дзіця».
«Дунька, папасі за нас каровы».

«Дунька, не тырчы, нібы сава!»

«Дуня, не туды кіруеш дышла!»

Неяк непрыметна для сяла,
Без вяселля Дуня замуж выйшла.

Не спявалі ёй. І не пілі
Хмель-віна. Не неслі падарункаў.
Ды, як зоркі, вочы расцвілі.
Нават плечы выпраміла Дунька.

Між радзіны новай, між людзей
За пакуты шчырыя якія —
Бачыце, як молада ідзе,
Як дастойна крочыць Еўдакія!

# ДУРНАЯ ГАННА



Бяссонне мучыць галаву,
Ні следу — да парога.

«Пытайцеся, пакуль жыву,
Я пакажу дарогу».

Збірае пер'е і траву,
Увішна трэ падлогу.

«Пытайцеся, пакуль жыву,
Я пакажу дарогу».

На ўскрайку вёскі, дзе папас,
Жыве дурная Ганна.
На ўсё ў яе — адзін адказ,
На ўсё — адно пытанне.

А рукі, быццам буралом.
Травой прывялай — шчокі.
...У чыстым полі за сялом
Ёсць страшны роў глыбокі.

Вайна і посвіст салаўя
Змяшаліся няўцямна.
Была сям'я. Было — сем «я»,—
Усіх накрыла яма.

Былінку горкую сарву
І ўчую праз трывогу:
— Пытайцеся, пакуль жыву,
Я пакажу дарогу.

## НЕ ВАРТА

Шукаць дарэмна броду — лепш ракою
У незнаёмым месцы плыць без жаху.
Не заграбайце жар чужой рукою:
Застацца можа іскра для пажару!

Цяжар не неравальвайце на плечы
Спадручнаму
у век суровай прозы.
Лаўровікі, не думайце пра вечнасць:
І помнікі не ўсе адліты з бронзы!

Уразіць твар, а болей — агароджа,
Якой паспеў дзівак адгарадзіцца.
Плануйце дзень і год свой асцярожна:
Пад восень і садоўнік мітусіцца.

Не трэба пеўняў разліваць вадою —
Праз пяць хвілін угаманяцца страсці.
Не варта рваць адносіны з бядою,
Бо непадзельна з ёю ходзіць шчасце.

## КРАСНАЯ ЦАНА

Шуміць базар, кіпіць базар сталічны,
А на прылаўках дыхае зямля.
Дзябёлая кабета артыстычна
Каштуе дар прыроды спакваля.

Гандлююцца, гамоняць, ушчуваюць
Сівую бабку ў лёгкім пінжаку.
І яблыкамі сеткі набіваюць,
І лаюцца на шорсткім скразняку.

Не чырваней, як спелы яблык, бабка,—
Заступніца спусцелага сяла.
Бяры за рэстараны, за тэатры,
Ў якіх, відаць, ні разу не была.

За боль бяры, за жорсткія спакусы
Вачэй,
 што адшугалі, як ільны.
За цёмныя засушаныя вусны
З трагедыі праклятае вайны.

За град бяры, за хлюпкія сумёты,
За звыштраскучы студзеньскі мароз,
За тое, што усе твае суботы
На кожным тыдні — красныя наскрозь.

Бяры за быль, бяры за небыліцу,
За тое, што аглухла, як сцяна.
...Павінна ў рэшце рэшт і на зямліцу
Быць красная, адменная цана!

## АДНОСНА КУЛЬТА



Нехта рукі кіруе на пульт,
Хоча вораг крывавае мукі.
За які ён змагаецца культ?
Хай адсохнуць ў падпальшчыка рукі!

Ці ж да песень не здатны мой кут?
А прыціх, нібы поле на мінах.
Узвядзём жа культуру у культ! —
Хай пракісне віно ў магазінах.

Уратуйма яе ад клаак,
Траскатні, мітусні-верхаводкі,
Каб ішлі на паэзію,
як
У царкву мае грэшныя продкі.

Зведаў край наш нямала пакут,
Каб застацца народу — народам.
Узвядзіце культуру у культ,
Каб халтура не ведала ходу!

Стрэсы нас даганяюць, інсульт,
Хцівасць нас даганяе драпежная.
Узвядзём жа культуру у культ,
Ачышчэнне душы — непазбежна!

# ПРАГА КРЫЛА



Рыфмы змахну са стала,
Але не выйду з прыгнёту.
Вечная прага крыла —
Вера і сіла палёту.

На скрыжаваннях падзей —
Горыч і слодыч аскомы.
Дзякую, белы мой дзень,
Ты налятаўся да стомы.

Песня і песня,
                    апроч
Звышнепрыкаянай зморы.
Дзякую, чорная ноч,
Ты узнялася да зорак.

...Тоўстых каменняў ілбы
Палеазойскае эры;
...Сытыя галубы
На падаконніку веры,

Вас не люблю, а шкадую.

# ПА ДАРОЗЕ Ў ДАСТОЕВА

Красота спасет мир.
*Ф. Дастаеўскі*

Шукаць карэньчык роднасці сваёй?
А тут — лясы, падзолістая глеба.
А тут — каторы дзень! — ілье пралой.
Як Дастаеўскі, схмарылася неба.

Язычнікаў куточак? Не, музык!
Вось паляшук узяў скразную ноту.
Струна душы, падобная на ўскрык,
Перажагнала радасць і гаркоту.

І ў гэтай дзіўнай, грознай цішыні,
Дзе сад здзічэў, дзе звялі пералескі,
Як струны, перабраўшы ночы й дні,
Я вас не раз успомню, Дастаеўскі!

Нацяты нервы сэрцаў і планет.
І новы ўжо Раскольнікаў бунтуе.
На астраўкі расколваецца свет.
Якая ж прыгажосць яго ўратуе?

## ПРАДЗЕД ФЁДАР, КОНЬ І ПАЭЗІЯ

Як на папасе, сустрэліся ў часе,
Цела ўмірае, а дух не памрэ.
...Прадзед мой Фёдар лятаў на Пегасе
Пасля таго, як загоны згарэ.

Бабка хрысцілася ў кут на святога,
Ды рыфмачу пападала найперш:
«Што ты складаеш, бязбожнік, пра бога?
Чую, што смерцю сваёй не памрэш!»

Густа дымела табака у піпцы.
Богу прадаў а ці д'яблу душу —
Сумна-вясёлага ў вогненнай світцы
Вёз яго чынненька конь з кірмашу.

Потым імчаў той віхор над балотам,
Біўся раз'юшаны вецер з вушэй.
Да найсучасных цяпер самалётаў —
Дух наўздагонны сягаў і вышэй.

Прадзеда світка ці слова світае?
Гэта агонія а ці агонь:
Рыфму, як іскру, з дарог высякае
Незацуглянай паэзіі конь!

# СЛОВА



*Вацлаву Жыдліцкаму*

Каму — маліцца славе,
Спакусніцы ліхое.
Скажыце мне, Вацлаве,
Адкуль цяпло такое?

Калінавы, шыпшынны
Мой край ад зор азяблы.
Ды Вас заваражыла
Святое слова «сябра».

Мянялася надвор'е,
Ішлі дажджы адлегі.
Адно не гаслі зоры
Ад альфы да амегі.

Накінуўшы на вулкі
Сярэбраныя латы —
Туман крылом атульваў
Венецыянскай Златы.

А пушчай Белавежы,
Дзе ціша, як замова,
Паслухайце праз межы:
Не памірае слова!

# УШАЦКАЯ КАЛЫХАНКА

*Рыгору Барадуліну*

Па полю ды па сенажаці
Нясла, каб песню не ўрачы.
...Ці ведаў свет, *якая* маці
Спявала сыну уначы!

Блакадны лес гукнуў: «Ку-лі-на-а...»
Ля ног сквалчэла дзераза.
Запала рана ў сэрца сына
Любові мужная сляза.

...Ходзіць сон каля акон,
А дрымота каля плота.
І пытае сон дрымоту:
— Дзе мы будзем начаваць?
— Дзе хацінка цяпленька.

А гукі ткаліся са скрухі,
Ўрасталі ў дол, як карані,
Сярод сусветнае разрухі,
Сярод аклятай цішыні.

Ты прыхіні яго, яліна!
Маланка, долі не суроч!
«Ку-лі-на», чуецца, «Ка-лі-на»,
І не хавае сцежкі ноч.

Ой люлі-люленькі, люлянка...
Блакадна перадь перуны.
Адно, кашулька-вышыванка,
Як матылёк, сярод вайны.



Крывава зіркае маліна,
І дымам курчыцца чабор.
«Ку-лі-на», трызніцца.
«Ка-лі-на»,—
Перабірае струны бор.

За ёй, як нітка за іголкай,
Ён бег па жаху, па вайне.
...А песня тужыць перацёлкай
У недажатай збажыне.

## У ЧАБОРУ СПЫТАЙ...

Шчэ да вечара доўга — далёка,
Шустры конік збівае расу.
Абсалютна спакойна і лёгка
Я зялёную ношку нясу.

Водар лесу, ці вецер гаркавы
Развярэдзіць шчымлівы ўспамін.
...Ёсць у ношцы балючыя травы,
Ну, напрыклад, дурман і палын.

Адпачну ля глухой пераправы
Покуль з громам спрачаецца дождж.
...Ёсць у ношцы вясёлыя травы,
Як да праўды — крапіўка і хвошч.

Гэй, няма толькі зеллечка злога,—
На яго небагаты мой край.
...Скуль іду я, куды мне дарога —
У чабору, радзімы спытай.

# ПАЧАТКОВАЯ ШКОЛА



Ажыніна ножку ўкалола?
Бяды той! Калючкі — не злыя...
У кожнага ёсць свая школа
І літары ёсць залатыя.

Зіхоткім дасвецщем вясёла
Страсаю няўцямныя сны я.
У кожнага ёсць свая школа
І літары ёсць прапісныя.

Паставіць няўдача пячатку,
Ну што ж, і няўдача — урокі.
Пачнём, мой сыночак, спачатку,
Нанова пачнём, яснавокі!

Дарогі вавёрчына кола...
Зіркасты шыпшыннік з адхону...
Мая пачатковая школа
Вучыць мяне будзе да скону.

# КАЛЯДКІ

Вось і ўсмешка, як вясёлка ў кроснах.
А каб хто ж яе і паспытаў:
Вывернуў кажух мой бацька хросны,
Удавец-браток надзеў каптан.

А каптан — зялёны ўвесь і горкі,
А браток, на дзіва, гаваркі —
Круціць мне сланечнік цуда-зоркі,
А на ёй — вавёркі і ваўкі.

А на ёй — лагодныя авечкі,
Гордыя алені і зубры...
Дык чаму ж згасаю тонкай свечкай,
Нібы паміраю без пары?

Мне шкада і хроснага, і брата,
І зары, што стаяла ў акне.
Гэты маскарад і гэта свята —
Спецыяльна, знаю, для мяне.

# ПЯРСЦЁНАК

Да бляску двор замёў усходні вецер.
Вось і ад сэрца трошку адлягло.
...То дзесь было: у космасе, ў Сусвеце,
Ці на мяжы палыннае было.

Ўракла матуля: «Будзе трудна з думкай.
Ніжэй трымайся неба і зямлі».
А я чужым зайздросціла мядункам —
Яны бяздумна пахлі і цвілі!

Па кветках тых даўно тугі не маю.
Мінае лета. Коціцца зіма.
І ўсё ж адну да сэрца прытуляю,
Хоць назвы ёй і памяці няма.

Чакае шлях. Чакае золак дальні.
Чаму ж душа бянтэжыцца яшчэ?
...Прымераю адзін пярсцёнак даўні —
І, нібы варам, палец апячэ.

# СЕРАДА



> Тое, што я існую — гэта цуд.
> Гэта і ёсць жыццё.
>
> *Р. Тагор*

Віншавальных лістоў чарада
Жаўрукамі шчабеча мне зрання.
...Вось прыйшла і мая серада —
Палавіна жыцця і жадання.

Невядомыя зоры планет
Дакляруюць святло пакахаўшым.
Серада. Пасярэдзіне свет.
Пасярэдзіне праўды і фальшу.

І крычаць загалоўкі газет
Кроўю сэрца і скрухаю чорнай.
Серада. Пасярэдзіне свет.
Пасярэдзіне міру і прорвы.

Пра-тэс-тую! Планеце — цвісці,
Не, не быць ёй ракетадромам!
Мой радок, дэманстрантам ляці
Да аглухлага Белага дома.

Хіба скончыўся ў свеце давер?
На сяброўства настройваю ліру.
З серады ды на чысты чацвер
Дай, Зямля, табе
хлеба і міру!

## «БЛАКІТНАЯ ЛАГУНА»

Калі хто стаміўся ад мітусні і шуму і хоча пабыць сам-насам — карыстайцеся паслугамі фірмы «Блакітная Лагуна».

*З рэкламы амерыканскага тэлебачання*

Пакіньце быт уласны
І дзень надзіва юны.
Прыдбайце, містэр, ласты
З «Блакітнае Лагуны».

Турботаў пад завязку?
Хоць раз, ды трэба плюнуць!
Прыдбайце, місіс, маску
З «Блакітнае Лагуны».

Няхай аўто нясуцца
З народам і са збродам.
Напоўніць не забудзьце
Балончык кіслародам.

Хай бізнес ладзіць войны,
Ілжэ пра мір з трыбуны.
Мо й сапраўды спакойней
У чэраве лагуны?

Тут дзіўная прырода.
Не думалі вы хіба,
Што, мусібыць, выгодней
Набраць вады, як рыба?

Плывіце без патугі,
Хай зорыць вам фартуна.
Да вашае паслугі —
«Блакітная Лагуна»!

# НА ХАТЫНСКАЙ ЗЯМЛІ З ЗАМЕЖНЫМІ ТУРЫСТАМІ

...А гасцей усё возім
У Хатынь, у Хатынь.
*П. Панчанка*

Ой бы вас ды ў саначкі былінныя,—
Коні ёсць, і маразы гудуць.
Ёсць і ў нас вясёлыя мясціны,
Толькі ўсё ж Хатынь не абмінуць.

Нам бы вас — з гарэзнымі шумёламі,
Так, каб толькі звон у галаве!..
Толькі не астыў яшчэ над сёламі
Звон, што з сорак першага плыве.

Жытніцы, Гасцілаўкі, Асвеі...—
Болей не ўглядацца ім на свет.
Ветлае,
не бойцеся завеі:
Не, не замяце вас, фрау Кэт!

Юныя растуць вакол бярозы,
Ды святло змяняецца на боль.
Шчырага,
не бойцеся марозу:
Скіньце шапку, гаспадзін Рудольф!

# ДУХАВЫЯ АРКЕСТРЫ



На зямлі — непагода,
Чорны вэлюм нявесты.
...Духавыя аркестры
Сорак першага года.

Праважалі, хавалі,
Сцяўшы гордыя губы.
Гнеў і вера трымалі
Вашы слынныя трубы.

Непазбытыя страты,
Соль на зорачках алых...
Ваш матыў, аркестранты,
Не прыстаў на прывалах.

Вы — ад крэпасці Брэсцкай,
Ад сумлення народа,
Духавыя аркестры
Пераможнага Года!

* * *



Ружовы цвет і хараство садоў.
Адкрыты жаль заложніцы-эпохі.
А на зямлі не менее удоў,
Нібы ва ўсім павінны катастрофы.

Чытай сябе і вывучай, паэт,
Маліся на магілы і бярозы.
Калі ж нарэшце вылюднее свет
І скончацца ваенныя пагрозы?

Калі ж дашчэнту згіне яд і тля
І станецца любоў невыпадковай?
Бо, як жанчына, цягнецца зямля
Да абароннай ласкі мужыковай.

Дваццаты век. Бары і курганы.
Радзінны спеў і пошум Белавежы.
Мы ўсё яшчэ будуемся з вайны
І — ад вайны! — няўжо ізноў залежым?

# ІНДЗІРА

Так адлятаюць у далёкі вырай,
Але высокім крылам сцюж няма.
Як Ліра, над зямлёй гучыць «Індзіра»,—
Свяшчэннае і мужнае імя.

Нязломна так мужчыны паміралі,
Кацюўся сонца лік за сіняву.
Суровыя, у горасным абвале
Схіляюць Гімалаі галаву.

Ды голас Ваш і воблік серабрыны
Праніжа раптам з чорнай нематы.
Вы узышлі мелодыяй краіны,
Паэзіяй шчаслівай яснаты.

Яшчэ не ўся зямля цяплом сагрэта,
Але, прабіўшы раўнадушша тхло,
З высокіх душ гартуецца планета,
Каб душагубам месца не было.

Праўдзівы шлях не знае наракання,
Яшчэ крапчэй бясстрашша тчэцца ніць.
Жыве, гучыць паэзія змагання,
Якую немагчыма падкупіць.

Кручасты шлях, адчайны лёт арліны,
Але свабодзе высака лятаць.
Жыве, звініць мелодыя краіны,
Якую немагчыма расстраляць!

## РОЗУМ



Згустак шэрага рэчыва —
Мозг журбы і надзей.
Свет стаміўся ад спрэчак,
Ад падзей ці людзей!

І зямля знепакоена,
Цяжка стогне зямля.
Землятрусамі, войнамі
Хіба выжывем
для

Непаўторнае, новае,
Залатое пары...
Хто вы, мондрыя Коэны,
І — за што? — змагары.

Свет вялікі і розны:
Межы, дрэвы, драты.
Толькі верыцца ў розум
Той,
што сее жыты.

Свет ласкавы і грозны:
У крыві і ў расе.
Толькі верыцца ў розум
Той,
што шчасце нясе.

Згустак шэрага рэчыва,
Згустак шэрага вечара.
Згустак страшнага нечага,
А ці добрага, вечнага?!

# МАЁ АДНО-АДЗІНАЕ СВІТАННЕ

*Сыну Андрэю*

I

14.IX.1985 г.

Вось нашай польнай сцежкі паясок,
Вось спеўны бор — уся твая радзіма.
...Ламаецца твой, сынку, галасок,
А я запомню гэты, нібы дзіва:

Ён так ільецца, нібыта пяе
(І не сатруць яго паводкай вёсны).
Вось вочанькі разумныя твае,
І ты са мной гамоніш, як дарослы.

Як выраслі узмахі родных крыл,
Каб акрылёна ў свет лятункі несці.
Ды йшчэ звініць і прыдае мне сіл:
«Мамусенька, дай жэўжыку паесці».

Згатую страву смачную, сынок.
Пірог спяку. І пагляджу задачу.
...Ламаецца празрысты галасок,—
Такой бяды! Ды я чамусьці плачу.

II

8.X.1985 г.

А поўня нас цямнечаю лякае,
І дождж ільецца прама у душу.
Сынок, я тэлефоннымі званкамі
У «Хуткай» міласэрнасці прашу.

Якая ўсё-ткі ноч у нас даўгая,
Ці знalі мы падобную калі?
...Прыехала адна, затым — другая,
І трэцяя — падмогі не далі.

Міжволі тут успомніш і пра бога,
Калі твой тварык бледны і васцёр.
Вяду цябе знямоглага, слабога
Праз хірургічны доўгі калідор.

Было ў жыцці маім зашмат благога
І ўсё-ткі болей сонца і удач.
Тулю цябе спішэлага, слабога,
А ты мне шэпчаш: «Мамачка, не плач».

Так цяжка мне, нібы іду праз гурбы
І завірухай свет завалакло.
І ўжо малю не бога, а хірурга:
«Ўратуйце мне адзінае святло».

III

9.X.1985 г.

Сляза чакання, зорка-зараніца,
Апошняе надзеі не суроч!
Я ўся цяпер прыліпла да бальніцы
І, як дзяжурны ўрач, не зводжу воч.

Сыночак мой, бясцэнны мой, радзімы!
Якія суткі ўжо не сплю, не ем,
Але заводжу звонкі твой будзільнік.
Ты слухаеш? Ён звоніць роўна ў сем.

Шуміць асенні вецер верасовы,
Скупы праменьчык сэрца саграе.

Я праціраю столік твой пісьмовы,
Пераглядаю сшытачкі твае.

Адно, калі праходжу міма школы,
Дзе сэрца раніць ранішні званок,
Шапчу адны, адны і тыя ж словы:
«Ты будзеш жыць! Ты выжывеш, сынок!»

## IV

10.X.1985 г.

Любімы мой, найсонечны, найблізкі,
Быць слабаю мне сёння не дазволь.
Пішу табе вясёлыя запіскі,
Хоць раздзірае сэрца дзікі боль.

Я над табой цяпер, як над калыскай,
Ў якой люляю сонечны працяг.
Чытай, сынок, вясёлыя запіскі
Майго неверагоднага жыцця.

Чытай, сынок, хай пойдзе на здароўе
Прыдуманы вясёлы мой настрой.
Я ведаю, што сіла ёсць і ў слове,
Калі яно напісана крывёй.

Чакаю шчаснай восені празорай,
Дзе мы з табою пойдзем крок у крок,
Лісточак мой на завадзі азёрнай...
Ты будзеш жыць! Ты выжывеш, сынок!

## V

11.X.1985 г.

Яшчэ забараняюць мне адведкі.
Плывуць медсёстры, нібы белы дым.
Паслухай, да цябе гавораць кветкі
У хірургічным слоіку шкляным.

Балючы мой, не па-дзіцячы мужны,
Я ведаю, што нам пасвеціць дзень!
Паслухай, да цябе гавораць ружы,
І кожная — як сонечны прамень.

Я страшна, мілы, не люблю кантрастаў,
Баюся пацямнелага вугла.
Але паслухай, як шчабечуць айстры
Твае, сынок, з пісьмовага стала.

Падбітай рыссю лягу ля парога,
Але не падпушчу бяды ліхой.
Мая любоў, мой боль, мая трывога
Трымаюць чэпка зорку над табой.

## VI

12.X.1985 г.

Маланкі жах і стрэлы перуна
Мне мрояцца штодзённа, штохвілінна.
...І сніцца мне аклятая вайна,
Пампеі жах, дзе я шукаю сына.

У паніцы міністры, каралі,
Канае за краінаю — краіна.
Плыву ў бяздонні зрушанай зямлі,
Гукаючы ў глухой гарачцы сына.

Усё ў крывавым, дымным тумане,
Усё ў вар'яцкай гразкай калатушы.
І магма наплывае на мяне
І залівае вочы мне і вушы.

Згубіла ўсё ўсялякую цану,
Трашчыць, гудзе парахавая бочка.
Адно, што рукі тонкія цягну
На слабы ўскрык знямоглага сыночка.

Як доўга развідняе ля вакон,
Кудысь плывуць і століа, і падлога.
Не паўтарайся, знікні, страшны сон!
Я ўся дрыжу з відовішча такога.

## VII

13.X.1985 г.

Няхай мой сын мяне перажыве!
*Данута Бічэль-Загнетава*

Маё адно-адзінае світанне,
Мой матылёк на светлай мураве,
Я паўтару услед, як заклінанне:
«Няхай мой сын мяне перажыве!»

О лёс, па гострых дзідах і каменнях
Вядзі мяне да самага грудка,
Але прашу цябе я на каленях:
Аберажы світанніка-сынка!

Ссудзі мяне на муку і бяссонне,
Тапчы мяне ў калючым бур'яне,
Што хочаш, лёс, бяры ў мяне сягоння!..
Хай толькі сын перажыве мяне!

Дай ручанькам яго кусочак хлеба,
Нагам — сцяжыну ў роснай мураве.
Ці ж многа я прашу ў зямлі і неба?
Няхай мой сын мяне перажыве!

## VIII

14.X.1985 г.

Шукаю я ў прасторнай хаце месца.
Каго вініць і ушчуваць каго?
Сыночак, сёння застаецца месяц
Да нараджэння светлага твайго.

Бяду маю сябры са мной раздзеляць,
І блісне зоркай каліўца давер.
Цяжкі дзянёк, гавораць,— панядзелак.
Ды дзень твайго з'яўлення — у чацвер.

Шукаючы любога паратунку,
Заглушваючы несціханы боль,
Я светла накрухмальваю кашульку,
Каб выглядаў у ёй, нібы кароль.

Маё адно-адзінае багацце —
Твой крохкі і ласкавы галасок.
Чакаю, сынку, свята ў нашай хаце.
Яно павінна быць у нас, сынок!

## IX

14.X.1985 г.

Шапчу сабе: «У зорку шчасця вер!
У каліўца надзеі, у іскрынку!»
Раздаўленай і чэпкай, нібы звер,—
Яшчэ такой сябе не знала, сынку!

Кажу сабе: «Адпрэч сляпы адчай
Дзеля жыцця, дзеля здароўя сына!»
Хай знікне ў растрывожаных вачах
Блакадная і горкая часіна.

Святло маё адзінае! Крыло! —
Без вас я цень, нікчэмная расліна.
Усё, што у маім жыцці было —
Дык гэта сын і вера ў шчасце сына.

Я сэрцам прыпадаю да зямлі,
Я цераблю балючы шлях вядомы:
Кавайце ў звонкіх кузнях, кавалі! —
Хай кавалёк малы не знае стомы.

Паэзія, пашто твае дары?
Але малю трывожнае дыханне:
Лясы, не замірайце без пары,—
Хай будзе позніх птушак шчабятанне!

Я з тонкіх нерваў перавясла ўю,
Каб утрымаўся наш снапок жытнёвы.
Жу-раў-лі-кі, пакіньце салаўю
Зялёны гай і ранак васільковы.

## X

15.X.1985 г.

Так аціхаюць восеньскія рэкі,
Але пульсуе іх жывы выток.
Сляза мая гарушчая, Андрэйка!
Святло маё адзінае, сынок!

Мой залаты да кожненькае рыскі,
Мы ўдвух, як на ляшчыне спарышы.

Ты пішаш мне спакойныя запіскі
Збалелым цельцам мудрае душы.

Здаецца, абмінула нас навала,
Патроху падымаецца настрой.
Дагэтуль я і сіл сваіх не знала,
І волі я не ведала сваёй!

Заступнічак харобры, абарона,
Маёй пяшчоты песенны выток!
...Гляджу на крону восеньскага клёна,
Дзе ўчэпіста трапечацца лісток.

## XI

17.X.1985 г.

Глядзець мне на цябе — не надзівіцца
Ўсё роўна як на тайну адкрыцця.
Няхай аклятым пылам адкурыцца
Усё, што супраць песні і жыцця.

Чакальны мой, мой дзень вяртальна-светлы,
Я для цябе пяю да забыцця
І заклікаю людства ўсёй планеты:
Паслухайце балючае дзіця!

Яно глядзіць у шчасці і ў дакоры
На грозны свет у гразкай мітусні,
Зірніце ўсе, як расцвітаюць зоры
У вачанятах нашай дабрыні!

Хіба не свята — сонечныя ружы?
Хіба не радасць — ціша і спакой?
Ды дзесь нацята страшнае аружжа
Да тоненькае струначкі зямной.

Я пакланюся верасню і маю,
Але зірнуўшы ў будучыя дні —
Не для вайны сынка я падымаю,
Выпрошваючы ў неба чысціні.

Не заўтра, людзі,— іменна сягоння! —
Адзінаю надзеяй жывучы,
Выходзьце ўсе з узнятаю паходняй,
Каб атамную смерць перамагчы.

## ПАЭТ

Ты залатую мрою не дагоніш,
А толькі словам немату загоіш
І выйдзеш зноў — без слова і пяра...
І ты душу сасмяглую напоіш
Сівой расою з роднага двара.

Усё, што знаў, з маленства ты запомніш
І калыханкай ўсё, што меў, напоўніш,
Нібы Купала, Пушкін ці Саят...
Ты ад расколу свет не абароніш,
Дык дзякуй хоць за тое, што аброніш
Шчымлівы і распытлівы пагляд.

Ты пасланцоў увагай удастоіш
І сілы непасільныя падвоіш,
Каб усміхацца і не ўпасці — ніц!
Правалішся, васкрэснеш і прымроіш
Глыток вясны з павысахлых крыніц.

Старынны ямб нанова перакроіш,
Знябудзеш тлум, забудзеш новы пройгрыш,
Каб дачакацца лепшае з часін.
Ўзляціш да зор, а ямы не абойдзеш,
Здалееш страх, а ў шклянцы буру знойдзеш,—
Маленькі бог зямлі і вечны сын!

* * *



Глыбы думак. Праху глыбы —
За сівою даўніной
Паміж Сцылай і Харыбдай,
Паміж сценкай і сцяной.

Адзіноты век? Гукання?
Не пачуўшы голас мой,
Ты прышлеш мне прывітанне
Паміж сонцам і зямлёй.

Беспрытул? Ды, дзякуй богу,
Не згасае успамін.
Дай мне ласкі на дарогу,
Дзікі ландыш і палын.

Будзе светла мне і горка
За лагчынай, за гарой
Паміж ранішняю зоркай
І вячорнаю зарой.

## ТАРАСАЎ ШЛЯХ

*Да 170-годдзя Тараса Шаўчэнкі*

І дыхаюць яшчэ глыбока грудзі,
І не згасае зорка у палях.
Апошні шлях? Але яго не будзе:
Хіба без песні жыў чумацкі шлях?

Ён пройдзе зноў па нелюдзі, па лёдзе
З нязгаснаю іскрынкай у вачах.
Шумяць вятры, глынуўшы соль стагоддзя,
А словы у Тараса на плячах!

Асуджаны на боль і адзіноту,
Мастак эпохі з крыўды не зачах.
Гудзе містраль, змятаючы драбноту,
А слава у Тараса на плячах!

Жывому,
мы паклонімся паэту.
Хай струны дзён уславяць лёс пяра.
...Ён так стаіць, што сёння ўсяму свету
Здалёк відна Чарнечая Гара!

## БЕЛАРУСЬ.
## АНДРЭЙ ВАЗНЯСЕНСКІ



Тайну дарогі раскрыць
Упершыню. Спачатку.
Быць не праездам — пражыць
Тут хоць гасцінную частку.

Зманіць сцяжына лявей,
Дух узаўецца рыссю.
Знаю, ёсць сонца спялей,
Хоць бы успомніць — Тбілісі...

З воч не адвесці вачэй.
Ветлую слухаць сябрыну.
Знаю, ёсць песні званчэй,
Хоць бы згадаць — Украіну...

Ды васільковай парой,
Шлях,
          што не абмінулі,
Высветляць вочы кароў
З мірнага войска Бядулі.

Паміж жаданых сяброў
І тут Ваша хата не з краю.
...Дзякуй жа за любоў
Да майго шчырага краю!

# МАСКВА — ПАРЫЖ — МАЯКОЎСКІ



Між пакутай і доляй паміж,
Калі слова са словам гукнецца,
Вам прыдаўся загадкай Парыж
На адлегласці сэрца і сэрца.

Над Масквой ці над Сенай сівой,
Распрастаўшы арлінае крылле,
Рану
        страснай пяшчоты сваёй
Назавеце ў паэме Марыяй.

Быць на сувязі двум гарадам,
Правадамі — працягнуцца вершы.
А ці ўкленчыць глухі Нотр-Дам
Перад самай капрызнай і лепшай?

На паэзію, нібы на крыж,
Лягуць шчыльна журба і удача.
Рану ласкі — зацісне Парыж.
Рану сэрца — Айчына аплача.

Дакрануся да слова — і ток
Пройдзе целам, і гукі ўзарвуцца.
Непагасна! — лагоды радок
І чырвоны радок праўдалюбца.

Паміж сэрцам і светам паміж
Струны голасу — не адгалоскі,
...Добры вечар, Масква і Парыж.
Добры дзень, Ма-я-коў-скі!

## ЧЫТАЮЧЫ БАЛГАРСКУЮ ПАЭЗІЮ Ў ПЕРАКЛАДАХ НІЛА ГІЛЕВІЧА

О лёс, што пачуўся ў званах Белавежы,
Ты маеш працяг і зямлі блаславенне.
Застыць перад цудам паданняў і вежаў,
Пісанняў і храмаў — хіба не здзіўленне?

Нас многа: нас тысячы, нас — міліярды,
І вечна — у сэрцах! — любоў і турбота.
Чалом пакланіцца лазе вінаграднай
І ружы агнявай — хіба не пяшчота?

Хай трызніць раскол і рыхтуецца меса
Агрэсара.
                Але пад гордасцю сцяга
Укленчыць забытым магілам і песням,
Традыцыям краю — хіба не павага?

Нічога не мае цаны, што ва ўгоду
Жыве,
         абярнуўшы ў чырвонец дыханне.
Пранікнуцца сэрцам к другому народу
І нацыі сціплай — хіба не прызнанне?

Найноўшыя песні над краем крыляюць,
Але развінуўшы пісьмёны стагоддзяў,
Гляджу, як ласкава, бы й раньш, адчыняюць
Вароты Братэрства Кірыл і Мяфодзій.

# ПРА ГАЛГОФУ



Дыктуе час раздумлівыя строфы,
Бярэ у рукі мудрасць
буквары.
Не думаю я страшна пра Галгофу,
Калі вітаюць думкі угары.

Памілуй, век, бо й пры цару Гароху
Не раз вучылі страху ліхвяры.
Не думаю я жорстка пра Галгофу,
Як спасцігаю яснасць угары.

Здзіўляюся я часу-скамароху:
Ён стаў надзіва тлумны й гаваркі.
Ды на пісьмовы стол, як на Галгофу,
Кладу свае вучнёўскія радкі.

Распрэглася трывожная эпоха.
І кожны дзень — туман і адкрыццё.
І шчыраўніцай свеціцца Галгофа,
Калі яна — сапраўднае жыццё.

# МТАЦМІНДА *

У Тбілісі, у пантэоне на гары Мтацмінда, пахаваны Ніколаз Бараташвілі, Ілья Чаўчавадзе, Акакій Цэрэтэлі, Важа-Пшавела, Галакціён Табідзе...

Вінаградны і сонечны дзень,
Нібы горы, тут высяцца леты.
Не бывае бязгрэшных людзей,
Не бывае бязгрэшных паэтаў.

Мы з табою, гара, памаўчым.
Дык чаму ж навакол пасвятлела?
То каханыя лікі жанчын —
Можа, Мэры, а можа, Натэла.

Як прыбіты яны да цябе!
Хоць над ласкай — зямліца сівая.
Час не можа сканаць у журбе,
Бо паэзія сэрца — жывая.

Дай мне светлую жменьку надзей,
Цеплынёю грузінскай сагрэтай,
Не бывае бязгрэшных людзей.
Як святых, тут шануюць паэтаў.

---

* Мтацмінда *(груз.)* — святая гара.

# СТАРЭЙШЫЯ МАЕ...



І смутак абаўе
Мой дзень, яшчэ харобры.
Старэйшыя мае,
Мне з вамі добра.

Звіняць гадоў званы:
Да каласочка — колас.
Між мудрай гаманы
Ваш чую голас.

Я ўжо сама, як госць,
На шлях гляджу сурова.
Але пакуль вы ёсць —
Пульсуе мова.

Няхай і млосць, і злосць
У твар, як вецер рэзкі.
Але пакуль вы ёсць —
Шумяць падлескі.

Прасторы не стае,
Зашмат сіроцтва?
Старэйшыя мае,
Мне з вамі — моцна!

* * *

Не прад'явіць віны пасля,—
Пасля крушэння і гаркоты.
Дзе музыка твая, зямля,
Ў якіх барах начуюць ноты?

Ці неўрадлівы выпаў год,
Каб нам у стрэсах захліпацца...
Паэзія — агонь і лёд:
Сто раз згараць і уздымацца.

Мая трывожная любоў,
Перад табой я вінавата.
А ты ізноў жывеш наноў —
Галубіш боль. Шукаеш свята

І рупішся, нібы народ
У разгалосым перазове.
...Пісаць, нібы ісці пад лёд,
Каб потым зноў узняцца ў слове!

## ЧАСІНЫ ГОДА

У глыбокай задуме азерца.
Пах мурожнай прывялай травы.
Я тваё невясёлае сэрца.
...Снег не сходзіць з тваёй галавы.

А заўчора трывожна крычалі,
Пакідаючы Пінск журавы.
Углядаюся ў цемень адчаю —
Снег не сходзіць з тваёй галавы.

Засынаючы толькі пад ранак,
Груд падушкі абнімеш ямчэй.
Заваліла, засыпала ганак
Белай памяццю белых начэй.

Хай пяе маё сэрца, як схоча,
Я шчаслівыя маю правы.
Мама! Лівень вясновы ляскоча.
...Снег не сходзіць з тваёй галавы.

# НАД СЫНАВЫМ ГЛОБУСАМ



Месца няма для адчаю і панікі.
Долі сваёй распагоджвай стырно!
Але штодзённа вяшчаюць дынамікі
Нам пра вайну, што не толькі ў кіно.

Нас паглынулі метро і аўтобусы.
Ноч прытачаць да дзянька паспявай!
...Ціха прысяду над сынавым глобусам:
Круцяцца-верцяцца Мюнхен, Кітай.

А закаханыя ходзяць алеямі,
Кожны у сэрцы — паэт і мастак.
Мерадыянамі і паралелямі
Людзі раздзелены? Як бы не так!

Служаць найноўшыя нам аэробусы,
Свет, як ніколі, адкрыт і відзён.
Думна варкую над сынавым глобусам:
Круціцца-верціцца ўсё Вашынгтон...

Рэчка вясновая, тундра зімовая,
Хай мерзлата адтае спакваля.
Ах, васільковая, боегаловая,
Болегаловая маці-зямля!

## ЗОРНАЯ ПАЭМА

Мой родны кут, як ты мне мілы...
*Якуб Колас*

### I

Светла. Птушынай радні адгалоскі.
Травы ў празорай расе.
Як скарачаецца шлях мой у вёску! —
Нібыта вецер на крылах нясе.
Што там сягоння ў сусвеце і ў свеце:
Войны? Радзіны? Салют?
Сэрцу збалеламу ёсць на прыкмеце
Белабярозавы кут.
Шчодра ў баразны засыпаны зёрны.
Вечнасць пульсуе быстрой.
Я развінаю дасвецце.
А зоры —
Кожная! — ветлай сястрой.
Вокнаў ліштва і варотцаў узоры,—
Край на умельцаў багат.
Свецяць на хатах фанерныя зоры —
Душы Айчынных салдат.
Ў гэтай зямной і зялёнай купелі,
Дзе і казюрка да сонейка мкне,
Татачка,
нагаварыцца не ўспелі!
З помніка ты усміхаешся мне.
Полем сівых перапёлак і бою
Ходзіць балюча — ахоўны твой цень,
Толькі душа скаланецца ад болю:
Жыта на мінах дагэтуль расце!
Дзятлік-урач і вавёрачка рыжая,
Вецер гаркавы, як пах буякоў.

Можа,
хоць тут ані згадкі пра хіжасць
І дэмагогію спрытных дзялкоў...
Зоры лясныя і зоры азёрныя!
Цягнецца ў неба любові вярста.
Сына вязу, каб спрадвечнае, чорнае
Працы, як дзед яго, мужна спытаў.
Сцежка ў маленстве віруе, вяртаецца
Між курганоў і шчымлівых бяроз.
Ўсё, што забылася — успамінаецца
І адгукаецца ў сэрцы да слёз.

Цёплымі промнямі дзень запарушаны.
Чуйнай зязюляй аклікнецца бор.
...Сад мой дзіцячы — калючая груша,
Бабка Луцэя ды сіні прастор.
Пахне аерам на сёмуху ў хаце,
Ранак стрыжэ растрывожаны стрыж.
Будзіць на зорцы, шкадуючы, маці:
«Ягады, дзетка, няўзгадкі праспіш».
Першым сярпочкам парэзаны пальцы
(Доўга той боль заглушыць не змагу!),
Жартачкі горкія: шустрыя мальцы
У інваліда сцягнулі «нагу».
Думаю: як жа ён будзе, збалелы?
Стане як потым ступаць на зямлю?
Толькі смяецца баец асівелы:
«Лепшую заўтра, паганцы, зраблю!»
Нібы снапкі на падлозе паснулі
Дзеці,
хоць стол іхні — гол як сакол.
Пяцера сірат у цёткі Настулі,
Цётка Настуля — жняярка і вол.
Ды не сумуюць панікла вяскоўцы:
Ў кожнага, нібы жар-птушка ў душы,
Чуеце? — сыплецца рэхам па вёсцы

Грайка-гармонік, хоць іскры тушы:
Хлопцы ўсе гуляць ідуць,
А мне нечага абуць:
Лапці новыя згарэлі,
І страхоўкі не даюць.

...Што ж там сягоння ў сусвеце
і ў свеце?
Кожная болька — радня.
Новыя зрухі пайшлі ў сельсавеце,
Хоць і Загразкіна ў ім старшыня.
Час расхінае мярэжы і межы,
Мае празорцаў сваіх, дактароў.
Выраслі новыя ў вёсцы катэджы
Заміж былых агароджаў-двароў.
Шыферам новая вёска накрыта,
Мудрым нашчадкам спяваць ды расці!..

З гускамі век дажывае Харыта,
Ў дом састарэлых не хоча ісці.
Скажа паштарка мне ў ціхім дакоры,
Нібы прад'явіць віну:
«Дзеці рассыпаны, нібыта зоры,
Згоркне — на неба зірну».
Дзеці цярплівае маці-прыроды —
Лёгкія мроі, нязбытныя сны,—
Хто нам пасведчанні жывёлаводаў
Выдаў за клас выпускны?
Ах, як разбегліся ўсе адмыслова
Як найхутчэй з-пад бацькоўскіх апек!
Любім на словах. Бунтуем на словах.
І славасловім праграмны наш век.
Цывілізацыі зорная з'ява
З векам раскошным ідзе неўпапад.
Грукнула ў сэрцы глухая аб'ява
На замяшчэнне вакантных «пасад»:

## СЯЙВО

Гэта промняў нябачныя гукі
Абудзілі мой ранак нямы.
Дык чаму ж не рассеюцца мукі
Праз кароткую споведзь зімы.

Гэта сонца так жорстка смяецца,
Што балюча ўглядацца да слёз,
Ці гарачае бацькава сэрца
Чорны воран у дзюбе прынёс?

## УЧОРА?

Тае тоўшча календара —
Новы заявіцца скора.
«Учора» — шалее за вокнамі град.
«Учора» — не сцішыцца мора.

«Учора» — надрывіста вецер пяе,
«Учора!» — агеньчык сігнальны.
Учора — намылкі мае і твае
Аднесла дзевяцібальным!

Учора? Ды як зразумець, аднак,
Блудлівыя цені навокал?
Міргае
    чырвоным
        вокам
            маяк:
Не заплывайце далёка!

Не ўпершыню мне выпала ўсплыць
Горасна і адзінока.
Сотая чаіца ў небе шуміць:
Не заплывайце далёка!

Выйду збялелая, нібыта смерць.
Слова тваё — апора.
Ведаеш, больш не хачу разумець...
Добра, што з намі — мора!

## АННА ГЕРМАН



Так срэбны звон гукае ліру,
Так песня — долю нараджае.
...Падчас вясны і ураджаю
Адспавядацца ў жменьку жвіру?

Вы ўся такая маладая!
І валасы шумяць, як травы.
Смяецца голас і світае
На сціхлых вулачках Варшавы.

Мілан. О, тут вітаў Каруза!
Мілан, хай пачакае меса!
Няхай у сумным плацці Муза,—
Настройце музыку, Маэстра!

Зусім такая ма-ла-да-я!
Яшчэ ж і сонейка — высока.
Смяецца голас і світае
Ад Брэста да Уладзівастока.

Мы зачакаліся... Спявайце.
(Пласцінка чорная, як рана.)
І слоў няма сказаць: «Бывайце!»
Нех жые Песня, пані Анна!

# А ТЫ — ЛІЛІТ...



Суцешыць і наіўнае свяцтва,
Як разаб'ецца сэрцайка аб быт.
З агню ў агонь кідалася мастацтва,
Зару ў зары вышуквала Ліліт.

Забытыя, ізноў васкрэснуць міфы,
Асляпіць шчасця міг, як карнавал.
І сцерагуць не рыфмы нас, а — рыфы,
Дзе кожны крок — надзея і правал.

Па цаліку, па вугальках гарачых
Вядзе жыцця няласкавы іспыт.
О, столькі песень знікла непрадбачна!
А ты — Ліліт.

Слязы гаручай смехам не падманеш.
Па ўласным сэрцы пройдзе час-мастак.
Я не скажу, што ты шчаслівай станеш,
А што ахоўней будзеш — гэта так.

Дык хай любоў развеснена крыляе
Над іменем і шляхам маладым.
Усё жыццё нам ласкі не хапае.
А слава што? Яна спадман і дым.

* * *

І шлях, што тчэцца слёзкамі зязюль,
І жніўны дзень спякотны, без прадыху...
Чым непапраўна-молада дасюль
Жыла і я, нібы не меўшы слыху?

Дакладнік-час узважыць мой хатуль,
Сава над мітуснёю зарагоча.
Чым незваротна-молада дасюль
Ішла і я, бы завязаўшы вочы?

Ці век перавярнуўся ўгору дном,
А ці самоты стала забагата...
Мне мроілася: песняй, як радном,
Мяне заўжды накрые ў скрусе хата.

Туга,
маленства мячык падфутболь,—
Няхай ляціць вясёлы ды ружовы!
Я ўся цяпер — неразгаданы боль
Сустрэчы, слоўка, шэпату, размовы.

* * *

Пазначаны светлай журынкай рабін
І жарам шыпшыны акопнай
Мой голас жаночы. І пол мой слабы.
Дакладней,— мой голас з натоўпу.

Дачка земляроба, дзіця сіраты,
Я ладжу на слове ігрышча.
І ведаю вязь далікатнай фаты
І грубай сукенкі з ільнішча.

Гамоніць Палессе. Гудзе Панямонь.
Шугае дубняк адубелы.
Мангольскія коні ляцяць праз агонь,
І вянуць татарскія стрэлы.

Дзе ж боская праўда крывавых вятроў?!
Ды з курных застрэшкаў і ў лодках —
Бунтуе гарачы і горды натоўп,
А ў ім — галасы маіх продкаў.

Як выйдзе вясна з берагоў і ўпадзе
На грудзі зямлі, бы з патопу,
Не ў ціхім балоце, не ў шалкай вадзе —
Шукайце мяне між натоўпу.

* * *



Яшчэ не збыты успамін
На вуснах смагай згорклай.
Маўчу цябе святлом калін,
Каменнямі узгоркаў.

Дубы паўсталі на дыбы.
Вартуе воўк маліну.
Ты вывучаў мяне, нібы
Далёкую краіну.

Ўспаролі урвішча грыбы.
Туман лясок ахутаў.
Ты пакідаў мяне, нібы
Перасяленцы хутар.

Салонка з хлебам на стале,
Абрусік даматканы.
Ты зноў вяртаешся,
але
Няма мяне, каханы!

# САВІНАЯ НОЧ



Такой журбою асвятлю,
З лістком пытлівым пафліртую
І адкажу табе: «...не сплю,
Паколькі твой спакой вартую».

І абарвецца, як дакор,
Званок. І распадуцца словы.
Густая ноч. Нямы прастор.
Сабака брэша бесталковы

На гаражы, на лімузін,
На іншародную выгоду,
На апусцелы магазін
З лірычнай шыльдаю «Прырода».

Далёка — бор. Няблізка — лес.
Глыбока — водар верасовы.
Але, куды ні гляну,— спрэс
Заходзяцца, рагочуць совы!

# О, СПОРТ!

Дваццаты век удакладняе страсці,
Паветра усхадзілася, што хорт.
А на трыбунах — яблыку не ўпасці.
О, спорт!

Скандыруюць гульні прафесар строгі
І дама пышнацелая, як торт.
Дваццаты век. Павінны думаць ногі.
О, спорт!

Сівы дзядок з нязменным валідолам...
Мяснік, як сакавіты памідор...
Ужо і сын мой захварэў футболам.
О, спорт!

А ты, любоў да горада і вёскі,
У вокладках дыхтоўных на выбор
Гняцешся ў магазінах і кіёсках.
О, спорт...

* * *

Святло на волю выпускай,—
Хай спее сонца.
Якая дзіўная Масква:
Паток бясконцы!

У твар павее халадком
На міг — і толькі...
Плыву стамлёным хадаком
Сярод патоку.

Мой даўні друг, не ушчувай
Нямым дакорам.
Прыедуць — чынных! — сустракай
Гасцей з-за мора.

Высока слова падымі
Без тостаў лішніх.
...Дарога спелецца людзьмі,—
Не помню іншай.

## ЭЛЕГІЯ ДОМА



Ці замнога адчаю і болю,
Ці зглынуў нас уедлівы быт?
Шыфаньерамі, кнігамі, моллю
Гэты дом да астатку набіт.

Тут па лесвіцы крочаць, бы ўпотай:
Хто — з балонкай, хто — з рыжым катом.
Тэлевізіяй, спешкай, самотай
Да астатку заселены дом.

Праўда, скінецца дружна і разам
На пакойнага
люд па рублю.
І засведчыць сцяна безадказна
Нажавою зарукай «люблю».

Стукне ў шыбіну мячык дзіцячы,—
Вецер схопіць гардзіны кілім.
Ў гэтым доме смяюцца і плачуць,
Але рэдка спяваюць у ім.

* * *



Як доўга дождж ільё, а я не чую.
Наскрозь, да ніткі, вымакла зямля.
Ніхто нам шчасных дзён не наваяшчуе,
Як самі мы — сягоння і пасля.

Вяртаючыся з болю, нібы з бою,
Галубячы ўцалелы успамін,
Нязбыўны мой, заручымся журбою
Зялёнаю, як раска і палын!

Даўно няма адказу ў запытання,
Жывём пад знакам шанца і бяды.
І залатой разлукаю кахання
Апрануты асеннія сады.

## Я ПАЧАКАЮ

Нічога не вяртаецца назад:
Ні гэты міг, ні гэты дзень,— я знаю.
Ты адыходзіш ціха ў снегапад,
А я люблю вясну. Я пачакаю.

Разрыў-трава. Нязбітая раса.
Халодны ветах блудзіць каля гаю.
І наша сцежка жытам прарасла.
А я люблю жніво. Я пачакаю.

Ідуць дажджы — хоць з хаты не вылазь,
Бяссоння год, як лён, перабіраю.
На туфельках, на белым плацці — гразь.
Я не люблю слаты. Я пачакаю.

* * *

Прайшла жыцця часцінка ў перунах,
З тае пары — чакаю градабою.
Мне гаварыць з табой на паўтанах:
Баюся выдаць шчасце з галавою,

Хоць вечнага — яго ў мяне няма,
Яно вясёлым больш наканавана.
Не адбірай цяпла ў мяне, зіма,
Вось гэтак проста, гэтак нечакана.

Была, прайшла, мінулася пара
Пралескі першай, першае парошы.
А ты увесь з любові і дабра,
Балючы мой і самы найхарошшы.

# СПРОБА НЕСЕНТЫМЕНТАЛЬНАГА РАМАНСА



Тваёй пакуты і святла прычына,
Тваіх скупых і неабачных слёз,—
Я возера з зялёнымі вачыма,
Агромленая голька ў высакос.

Гатовая да ўсмешкі-запытання,
Да стоенай насмешкі з-за вугла,
Спазнала толькі я
азы кахання?
Ды і ў такім — няшчаснай не была.

Здзіўляючыся дню і позняй красцы,
Што на пачатку снежня расцвіла,
Адчула я хіба што боль па ласцы,
Але і ў ім — жабрачкай не была.

Мой дзень былы, нібы капрыз маленства,
Паўторыцца ў пяшчоце і ў жальбе.
Так многа у прыродзе падабенства!
Але няма падобных на цябе.

* * *

Хай позняе лісце у жоўтай маркоце,
Хай смутак не мае акрас.
У век, што аглух да крынічных эмоцый,
Дазвольце мне думаць пра Вас.

Я дзёрзкія струны да болю кранаю,
Баюся напышлівых фраз.
Зязюля зялёнага гаю, гукаю:
Дазвольце мне думаць пра Вас.

Быў шлях. Застаецца кароткая сцежка.
Бязлітасна коціцца час.
Успышка імгнення і дотык усмешкай —
Усё, што было паміж нас.

Гарачыя вусны успыхнуць капрызна,
Нібы закружыў падэграс.
Ніколі. Нічога. Сягоння і прысна!
Дазвольце мне помніць пра Вас.

## ГЭТА ЛЮБОЎ!

Рукі шчаслівыя ўскіну да столі,
Смехам парушу маўчанне сцяны.
Гэта любоў! І няма ёй спатолі.
Гэта любоў! І няма ёй віны.

Неба вачэй а ці сэрца вышэе?
Так, я да смерці шчаслівая. Так.
Гэта любоў, як скразная вышэўка
Тых пацалункаў — дзе ружа і мак

Не дагараюць, не вянуць ніяк.

## ХВІЛІНА



Як цеціва і лук —
Сустрэча і спатканне.
І шчырасць нашых рук
Не назавеш каханнем.

Да саменькага дня
Не стоміцца гасціна.
Нам выпала адна
Не доля — а хвіліна,

Якая ў тумане
Растане незваротна...
А ты чаму мяне
Галубіш прынародна?

## ТЫ ПОБАЧ, ТУТ...

Калі іду па вуліцы адна,
А ў твар адно — вятрыска несціханы,
Калі гляджу ў скупы праём акна,
Дзе профіль твой, о воблік мой жаданы,

Я аціхаю,
быццам не мая
Душа ўва мне, а спрэс адчай і мука.
Ты побач, тут. І ад таго ўдвая
Мне балючэй аклятая разлука.



* * *

Гэтыя зоркія вочы!
Гэтай пяшчоты прыбой!
Нічога не паўтараецца двойчы.
Я застаюся з табой.

Скруха з турботы знікае
Лёгка, як след мураўя.
Вецер мяне абвівае
А ці самота твая?

Поўныя бездані вочы
Нібы застылі ў мальбе.
Нічога не паўтараецца двойчы.
Як мне запомніць цябе

Так,
        каб не чуў і не ведаў
Жалю майго краявід,
Так, каб не бегчы па следу
Хваляй салёнай наўзрыд!

## ЗНАК ТАЙНЫ

Ёсць тайны знак у песні неўміручай,
А гукі-словы — сэрца спарышы.
Ці знацьмеш ты, о колькі рос гаручых
Змясцілася на дне маёй душы.

Хай над усім мяккі вятрэц трапеча
І молада хвалюецца жытцо.
Прашу цябе: у гэты светлы вечар
Не гавары мне праўды пра жыццё.

Мой белы цвет асыпаўся дачасна,
Гарэзная, вада у шкле стаіць.
Але чаму заўсёды гэтак ясна,
Так лёгка мне з табою гаварыць.

# КАХАННЯ САД
# І ЛАСТАЎКА ВЯСНЫ

І дождж, і гром, і несціханы вецер,
І першы клейкі лісцік выразны!
...Абуджваюць балючае дасвецце
Кахання сад і ластаўка вясны.

Яшчэ з табой мы павяснуем, доля,
Бо соты раз, як позва адкрыцця —
У светлыні агромленага голля
Кахання май і ластаўка жыцця.

Вясна, агонь зялёнага азарту,
Люблю твайго размаху крыгаход...
Зялёны сад — ён стане жоўтым заўтра,
Але нальецца тайнай сілай плод!

Аціхне шум. Ацяжалее крона.
Ды зноў успыхне лісцік выразны.
І блаславіць нашчадак акрылёна
Кахання сад і ластаўку вясны.

# СВІТАЛЬНЫ ВЕРШ



Іржавымі асеннімі лістамі
На мне замкнецца смутку паласа.
Ды радаваць цябе не перастану:
Глядзі, якая шчырая вясна!

Заціснуўшы вярэдлівую рану,
Паверу ў невымернасць дабраты
І радаваць цябе не перастану:
Паглянь, якія шчодрыя жыты!

Няхай нас выпрабоўвае расстанне,
Збівае з ног акляты суравей,
Мы радавацца дню не перастанем:
Хіба Радзіма ёсць яшчэ святлей?

О век, ты пахнеш порахам і бэзам,
Няўсцерп зямлі звышспапяляльны груз.
І хто скрыгоча там тупым жалезам?!
З любові мы. І ў гэтым наш саюз.

## СКЕРЦА



Сплыве туман над ярам,
Над быстраю вадой.
А вось — і прыйдзе старасць
З кавенькаю тупой.

Напомніць пра зазімкі
У спішанай вясне;
Рассыпле фотаздымкі,
Як веерам махне.

І хіба ў нашай волі
Хоць хвілю запыніць?
Яшчэ святла даволі
І нельга не любіць.

Парушым дзень звычайны,
Стандарт свайго жытла.
Яшчэ такой адчайнай
Я ўчора не была.

І покуль снег зляжалы
Вясёлы дождж скубе,
Залётныя,
                без жалю
Даверымся сабе!

## ФАРТЫСІМА

Расклад зімы вясна ў архівы спіша.
З вясны пачнецца мой наступны год.
Фартысіма — расколатая ціша.
Фартысіма — які глабальны лёд!

Вось-вось лістоў зялёныя запалкі
Успыхнуць,
салютуючы вясне.
Узбудзяцца з ліловых сноў фіялкі,
А ў далавах не хоча таяць снег.

Скажы, якім найменнем адгукнецца
Крыжасты крыгалом, нібы разбой?
Заходзіцца ў чаканні свята сэрца,
А на душы не хоча глохнуць боль.

Мы злучым незлучальныя паромы.
Мы соль з'ямо, забыўшыся на мёд.
Фартысіма... Яшчэ няма мне стомы.
Фартысіма — які бясконцы лёд!

## ГОЛАС З АКЦЭНТАМ



Маўчаць невыносныя сцены.
Далёка за поўнач не сплю.
Твой голас з магічным акцэнтам
Скрозь горкую ростань лаўлю.

Лятунак, сяйво, даварога
Ці выраю спознены клін?
Дык дзякуй, служанка-дарога,
За крохкую радасць хвілін!

Па каліўцу ласкі, па промню
Ляціць у акно светлыня.
Забудуся, але запомню
Дыханне шчаслівага дня.

Вясковы, сталічны, трагічны,
Імя сваё, век, назаві!
О, гэты світанак магічны
З акцэнтам шчымлівай любві...

* * *

Ні парушынкі ў небе, ні дажджынкі,
І мройна вішня пышная цвіце.
Яшчэ мая хада лягчэй пушынкі.
Адкуль цяжар так сэрцайка гняце?

Душыла смага, цалавала спёка,
Маланка з громам звязвала канцы.
Але не памірала ад апёкаў —
Зацягваліся песнямі рубцы.

Жыццё, ты стэп, што выгарэў да краю,
Дрыготкі ліст на восеньскім галлі.
І ўсё адно — цябе я абдымаю,
І ўсё адно цябе я блаславуляю
За боль і рай на песеннай зямлі.

* * *



Звіняць вясёлыя лісты
Пад ветлы шум дажджоў.
О, гэта ранішняе: «Ты!»
Вячэрняе: «Няўжо?»

Які ж удакладніў мастак
Мой лёс на палатне:
О, гэта радаснае: «Так!»
Сумлівае: «О не!»

Два словы: разам, неўпапад! —
Нібы з паўзабыцця...
А гэты белы снегапад
І гразь — працяг жыцця?

Ды растае у тумане́,
Вяртае дня вярстак
О, гэта зманлівае: «Не!»
Сардэчнае: «О так!»

* * *

За высокай кручаю-гарою —
Крылы недасяжныя твае.
Дык чаму ж нацятаю струною
Не рыдае сэрца, а пяе?

Я яго аб гора разбівала,
Аб чужыя душы-камяні.
І цябе гадамі забывала,
Памінала — божа барані!

Так жыву, бы з вечара да ранку,
Дзе гнязда і птушка не саўе.
Дык чаму ж струною-ашуканкай
Не канае сэрца, а пяе?

* * *

Над адзінотаю ўсмак пасваволю
І пасміхнуся, з блазноты, не раз.
Знаю паэта нялёгкую долю:
Выплеснуць сэрца сваё напаказ.

Не загаворвацца, не захапляцца
Праўдзе і споведзі наперарэз!
Доля прыдумак... але для мастацтва
Ёсць патаемны ў фантазіі сэнс.

З бытнасці першай, з сярэднявечча
Ў радасці і ў безвыходнай журбе
Кім ты ні быў за свой век, чалавеча?!.
Час наступіў, каб успомніць сябе!

Толькі ж у працы знаходзім спатолю.
Хто там палохае: «Быць ці не быць?»
Благаслаўляю нястомную долю:
Найчалавечнаму свету служыць.

## МОЛАДАСЦЬ



За ярамі, за лугамі роснымі,
За снапамі залатымі сноў —
Маладасць мая звонкагалосая,
Ты пашто вяртаешся ізноў?

Золушкай была. І каралеўнаю.
Знаю радасць і кладоў гарбы
І цябе, вясёлую ды спеўную,
Я наўрад ці стрэну без жальбы!

З птушкамі расла і з песняй вырасла.
Шмат чаго мне добры лёс ссудзіў.
Але колькі дрэў у садзе вымерзла,
Колькі цвету грозны град абіў!

Маладасць, давай жа развітаемся
У пару аснежаных калін...
Толькі так жыву і так трымаюся,
Каб мяне шчаслівай помніў сын.

* * *



Не зараслі быллём гадоў паляны.
Жыву, пакуль смуткую і люблю.
Прыходзяць людзі — гномы і вулканы —
І ў кожным штось таемнае лаўлю.

Няпраўда, харашэе свет ад казкі,
Хоць круціцца ў нябачных колах спіц.
Мне не да твару грым ружовай маскі —
Саткана доля з промняў-навальніц.

За месца ваяваць? Якое месца?!
Няхай гучыць паэзіі арган,—
Ці не мяне вучылі вы, Маэстра?
...Замоўклі і патухлі, як вулкан.

Парваліся, рассыпаліся струны?
Як Паганіні — на адной сыграй! —
Кажу сабе, такой старой і юнай...
А дзіўны гном рыхтуе ў пекле рай.

## БАЛАДА ВЯРТАННЯ

Прыйшла к табе з далёкае дарогі.
Вачэй маіх знямогу не лаві.
Знасіліся сандалікі. І ногі
Параніліся моцна, да крыві.

Чытаеш боль ці песню на абліччы,
Баішся дакрануцца да рукі.
Віхор пашкуматаў мой лёгкі сітчык,
Але прыліплі к целу васількі.

Ды даражэй за розныя прапажы
Сустрэты мной адзін сівы Баян.
Не чуў даўно такой гаворкі, кажаш?
Няўжо і я — апошняй з магікан!

Гаворыш, сам сцярпеў разрыў і мукі?
Дык што ж застыў, далёкі божа мой:
Вось сціхлыя, патрэсканыя рукі,—
Ліні на іх гаючаю вадой!

## ЯК ПРЫХОДЗЯЦЬ РАДКІ

Не тыя, што пяском цякуць з эстрады,
Не тыя, што лязгочуць, як станкі,—
Халоднай ноччу, цёмнай, непраглядпай —
Самой пяшчотай цепляцца радкі.

Мая любоў, ты зналася са страхам,
Але праз прорвы бед і бальшакі —
Калінавым і жытнім спелым шляхам
Самой прыродай слаліся радкі.

Не ведаю нудоты. Толькі ноты
Радкоў наступных, часе, не ўтаі.
Хто спачувае мне? У адзіноты
Ў сябрах былі хіба што гультаі!

О толькі б не ўзарвалася дачасна
Зямля, дзе ўжо сумуюць жаўрукі.
Вось ты зірнуў! І хараша, і ясна
Да самай поўні мрояцца радкі.

# МЕТАФАРА



Я высветлю цябе зусім знянацку
Над ціхім і напорыстым радком.
Метафара — ты елачная цацка,
Ліловы чад над бацькавым грудком.

Калі нячутна снег ляціць над светам
І доўга не прыходзяць маразы,
Ты нібы ў дар з'яўляешся паэту,
Здзіўляючы да чуйнае слязы.

Цябе не раз лавілі, як какетку,
Прыклейвалі на чыстыя лісты.
Але заўжды была ты этыкетам
Народнае і мудрай прастаты.

Не адхіліць бы кволую былінку,
Не размяняць на дробязь пачуцця!
О, гэта ты — нязгасная іскрынка:
Метафара сумнення і жыцця.

## БОЛЬ



Уваж. Хай быль-трава
Не будзе горкай піжмай.
...Ён, мама, двойчы два
Герой. Паклон, што выжыў!

У срэбры — галава.
І смута — агнявая!!
Ты, мама, ратных два,
Удоўка радавая.

Ты, мама, да канца
Пакорліва-святая...
А некаму свінца
Дагэтуль не хапае.

А ворагу пячэ
Зялёны звон планеты.
А ў хіжасці яшчэ
Плануюцца ракеты.

Не дай жа лёс, калі...
За намі, мама, тыя,
Навекі што ў зямлі
І двойчы два — жывыя!

* * *

Калі змагла б, вярнула б я не слова:
Адзін прамень — зямлёй і небам між.
Мой ясны свет, зялёная дуброва,
Ты ўсё шуміш, ты ўсё яшчэ шуміш.

Адзін прамень! Яго шукаюць рукі
Аблокамі і кручаю паміж.
Зялёны ліст несцерпнае разлукі,
А ты звініш. Ты ўсё яшчэ звініш.

Шукае смага ў працы паратунку,
А дзень з гары ляціць, як пара лыж,
Крыжасты шлях сумненняў і лятункаў,
Чым далей, боль,— мацней яшчэ баліш!

Адкрыты дням і снам трывожным вочы,—
Дзе так нацята стоеная ціш!..
Страла, што паўз мяне прайшла аднойчы,
Ты ўсё ляціш, ты ўсё яшчэ ляціш.

7 Зак. 2707

## ЛЯ МУРОЎ СТАГОДДЗЯЎ

І рака бруіцца васількова,
І лябёдка плавае ў стаўку.
Не сказаў на развітанне слова —
Толькі спешна сціснуў мне руку.

Ля муроў стагоддзяў, ля падмуркаў,
Дзе яшчэ не вымерла святло,
Мітусяцца восы і казюркі,
Ладзячы утульнае жытло.

А калі успыхнуць зараніцы
Горача,
нібыта макаў квет,—
Бачу голаў скрушнае званіцы,
Гамлета трагічны сілуэт.

Дружа мой, як абяднела ліра:
Толькі спрэчкі — стрэламі ў сцяне.
Час — даўно! — ідзе пасля Шэкспіра,
А білет на драму — у цане!

## НА ЎСЯКІ ВЫПАДАК...



Сын, як заўсёды,
Акуратна рабі урокі:
Дысцыпліна — харошая якасць
Не толькі поспеху ў школе.

Сынок, як і ўчора,
Паслужы няўцешным суседзям,
Адзіны сын у каторых
Нечакана загінуў ад кулі
На суровым полі заслоны!

Сыночак, чэсна, бы ўчора,
Прынось грашовую здачу
З прадуктовага магазіна.
Ды, на ўсякі выпадак,
Умей даць здачы
Подласці і няпраўдзе!

І яшчэ: будзь прывязан,
Як можаш,
Да верных сяброў па сэрцу
(Не дай табе божа мяняць іх на новых!),

Бо можа так здарыцца,
Што заўтра —
Не выйду табе насустрэчу.

Мама.

## ЗАЖУРАНЫ ЛІСТ ДА ШКОЛЬНАГА НАСТАЎНІКА



Дарогі срэбны ланцужок.
Зіма. І лес наўкола.
Матвей Іванавіч, няўжо
На знос і наша школа?

Замок пакратае дзятва,
Нібы лядок зашэрхлы,
Белакаменнае,
на два
Прасторныя паверхі.

Аціхлыя куткі двароў
З сучасным антуражам...
Эх, не хапае шкаляроў
Настаўнікам са стажам!

За дваццаць вёрст! Такой бяды?
Пад старасць, чалавеку?
Матвей Іванавіч, куды
Бяжыць дарога веку...

Мая разлётная радня —
Мой свет былы вясёлы...
Як б'е балюча цішыня
З высокіх вокнаў школы!

* * *

Будзе слоту абвяшчаць прагноз,
Лістабой учыніць пературуску.
Песняй, што расчуліла да слёз,
Я прыму цябе па-беларуску.

Краю блаславёнага дачка,
Дзякуй лёсу,
маю не ў нагрузку —
Зорны крыж Мацея Бурачка...
Ты ўва мне прызнаеш беларуску?

Сто разоў шукай другой красы,
А тым больш што свет даўно не вузкі!
...Ды калі ты не бязродны сын —
Гавары са мной па-беларуску.

Час — вар'ят, шалёнае таксі.
Толькі ўсё ж не мыслю я аб спуску.
Кажаш, што магілы зараслі?
Памаўчы са мной па-беларуску.

## ТАТА

Позірк пяшчотны злаўлю,
Светлы, нібы ад пшаніцы:
— Хочаш, пярсцёнак куплю,
Хочаш — вазьму завушніцы.

Ты клапаціўся дарма:
Вока на цацкі не мела.
Столькі мне год, што й сама
Я абдарыць бы хацела.

Як зажуруся ў жыцці —
Хоць бы маленькую ўцеху!
А да цябе — не дайсці,
А да цябе — не даехаць.

Ты мой заступнік адзін.
Высахлі слёзы. Не плачу.
Дык хоць у сне пакладзі
Рукі на лоб мой гарачы.

# НАША ПОЛЕ



Вось і пажата наша поле,
Аціхлі спеву каласы.
...Мы пасядзім з табой, саколе,
Як і ў мінулыя часы.

На шлях няроўны азірнуся
І на удачу — мімаходзь...
Ты не паддайся чорнай скрусе,
Капрызам веку не дагодзь!

Сягоння — ўзлёт, а заўтра ціша
І крылы складзены стырна.
Але прыслухайся, як дыша
І як пяе душы струна,

Адна яна! Адна — да болю,
Да азарэння, да слязы!
І каласіцца наша поле
Як і ў харошыя часы.

## РАДАСЦЬ

Вось бы й не было тугі — бяссоння,
Злых вятроў, занудлівых дажджоў.
Чысты снег на плоце і балконе.
Я кармлю расчулена сягоння
З далані вясёлых снегіроў.

Лес, ставок ды заінелы кусцік...
Шклінка недаверу звонка хрусне.
Ўецца маладая палазня.
Ўсё ізноў вяртаецца да вусця:
Годы, перазовы, чысціня.

Ты мне праўду залатую схлусіш,
Слоўкам недазволеным укусіш,
Нібыта юрлівы маразок.
Возьмеш — і навекі не адпусціш
Плеч маіх знямелы астравок.

Будзе сон трывожны і адхланне.
Будзе падаць рэўнасці шкала.
Бласлаўляю сонечнае ззянне,
Позняе і дзіўнае вяртанне
Вуснамі — да вусця і святла!

# ЗАСТАЮСЯ КАХАНАЙ!



Страшна ўвечары жыць
З незагоенай ранай.
Ты сказаў: «Адбаліць,
Заставайся каханай».

Страшна ноччу мне быць
З гаркатой апантанай.
Ты сказаў: «Адшчыміць,
Заставайся каханай».

Ах, нуда — не бяда
Ў цішыні расстралянай.
На праломе ільда
Застаюся каханай.

Валуны ды вуглы,
Золь дарогі калянай.
У праёме імглы
Застаюся каханай!

# І ПРЫЙДУЦЬ ІНШЫЯ...



І прыйдуць іншыя, другія,
Нібы вясновы — хлыне хор.
Ды ў час глыбокай настальгіі
Ёсць сэрцу спеўнаму дакор:

Там, у палоне шчаснай мукі,
Дзе шлях паэта не відзён,
Я ноч растрачвала на гукі
І на радкі — праменні дзён.

Але — ізноў! — ратункам рання
Любоў і песня на зямлі.
Ва ўсе часы — ад запытання
Да апраўдання мы жылі.

І прыйдуць іншыя... Ўзаемна
Услаўім дзён сэрцабіццё.
Пара мне знаць, што недарэмна
Па кроплі трацішча жыццё!

* * *

Вось так узгараецца слова:
Паблізу. Сардэчна. Здаля.
Мы будзем з табою часова —
Праменьчык,
Іскрынка,
Ралля.

Спяшаемся часта дарэмна.
Марудзім на пошласць і зло.
Мы будзем з табою ўзаемна —
Каліна,
Слязіна,
Святло.

Глядзі, як заранка трапеча
Над шапкай зялёнай галля!
Мы будзем з табою навечна —
Карэньчык,
Каменьчык,
Зямля.

## СІМВАЛЫ ВЯСНЫ

І праменем быцця — душы адхланне.
Праклюнуўся праз груд балігалоў.
Люблю адно: люблю зямлі дыханне
У квецені набраклае
садоў.

Пад вышынёй, пад хмараю панурай,
Дзе толькі май святлей ад палатна —
Трывожна мне, як свету перад бурай,—
Ды хай дажджом закончыцца яна,

Хай вылъецца на паплавы і пушчы,
Напоіць хай — дасхочу! — збажыну.
Мой дзень былы, ты ўвесь такі пявучы,
Гарушчы ўвесь, як голька палыну.

І покуль дзесь гамоняць асамблеі
І раяцца да раніцы паслы,
Шчыльней расціце, ружы і лілеі,
Як сімвал перамогі і вясны!

## НА ГОЛАС ЛІРЫ



І кожны дзень — гарачы вырай
Здзіўленняў радасці, клапот.
Так я іду на голас ліры,
Дзе ўсё — фантазія, палёт.

Які зайздросны свет паэта —
З нябачных промняў вобраз ткаць,
І — заміраць на схіле лета,
І ў вольным слове ўваскрасаць!

Яшчэ світаюць і лунаюць
Сузор'і вернасці ў палях.
Няхай грамы ператрасаюць,
Пераварочваюць мой шлях.

Але гудзе любові крылле,
Шчаслівы славячы прыгнёт.
Жыццё маё, і там, на схіле,
Ты ўсё — загадкавы палёт.

## НАХІЛ

Няма багоў. Ты толькі сэрца слухай,
Пяро маё, і не разменьвай дні!
Нібыта воз з аўсянай пацярухай,
Прайшла пара мышынай мітусні.

І покуль мераў шлях у неба ворлік
І цяжалелі гронкі арабін,
На балатах драчы сарвалі горла,
Пусцілі пух на вецер вераб'і.

У новых днях здзяйсненняў і гаркоты,
Дзе пыл прамоў не раз ляціць на пыл,
Дзіця сялян,
да чорнае работы,
Да чорнае зямлі ў мяне нахіл!

За рухам дня не назіраю ўпотай,
За прывідам удачы не лячу,
А на давер адказваю работай
І за любоў — работаю плачу.

* * *



Няхай душы бяссоння будзе мала,
Сама з сабой хай будзе ў барацьбе.
Усё жыццё мы прагнем ідэала,
Калі патрэбна пачынаць з сябе!

О не паддайся дробязнай згрызоце.
Вучы сябе, будзі свой мужны дух
І не кажы ў адчайнай адзіноце,
Што свет да справядлівасці аглух.

## БЕЗ ВЕТРУ!

Пры зайздрасці, падмане, раўнадушшы —
Яшчэ хапае сілы і любві.
Як высака ўзняліся нашы душы!
Дарэмна, вецер: ты іх не лаві.

Яны ж зусім не лёгкія пушынкі —
Яны з крыві, граніту і святла,
Хоць лёгкая журлівая смяшынка,
Як выгук, праз аблічча пралягла.

А доліла, што шлях — прамы і ясны.
І хто б там у званы хлусні ні біў,
Як ведаю па прозвішчы уласным,
Дык флюгерам ніхто яшчэ не быў.

Праменьчык мой сівы — зямная мама,
Сваці пад знакам гойнай праваты!
..Пад сіверам калею, пад вятрамі,
Але жыву без ветру — як і ты.

* * *



Такой прысні, як яблыневы сад.
Там не ачахла сонечная сцежка.
Хвалюецца высокі снегапад,
А на губах — іскрыстая усмешка.

Нібы прадаўшы жыта, спяць сваты,
А на вусах — па зманліваму слоўцу.
Мы пройдзем праз драпежныя пасты
Шыпшыніку і хітрага ядлоўцу.

Гусцее пільнай ночы абалонь.
А наша лодка, як на смех, без донца.
Ды пройдзем праз калінавы агонь,
Каб затрымацца на узлёце сонца!

Запамятай такою, як была,
Здзірала як нясцерпныя кляйноты.
Смяюцца вочы, поўныя святла.
А на губах — гарчавінка самоты.



# АБОЗ

*Малюнак дзяцінства*

Абшар жытны, зіркастыя півоні.
Яшчэ на ласку не ўзрасло цаны.
Майго маленства залатыя коні
І шчырыя — на песню — цыганы.

Рассыпаны па ўзлесках медуніцы,
Гандлюе крама сітчыкам з нябёс.
Смачнейшую бярэ ваду з крыніцы
Перасялян здарожаны абоз.

Дзяцей варушыць дзядзька чарнавокі:
«Праспіце, соўкі, сонца ў галавах».
Плывуць шляхі, як светлыя аблокі...
Ды я не знаю ніц яшчэ пра Шлях!

Мне хочацца кудысь перасяліцца
І ехаць пад крылатасцю аблок.
...Імчыць жыццё, нібыта калясніца,
А я ў руках трымаю вузялок.

Куды ж — здалёк! — вяртаюся напіцца?
Даверлівасць душы, як матылёк.
Імчыць жыццё, нібыта калясніца,
І я у ім — заманлівы яздок.

## ...ТЫ НІБЫ ЗНОЎ КУПАЕШСЯ Ў РАЦЭ

Нервова ў сне уздрыгвае стыхія.
Вартуе месяц зорак чараду.
Спакойны плаў, а берагі крутыя.
І п'е зара глыбокую ваду.

Расце трава пад буйнаю расою,
Тэмпература яснасці у руж.
Я захлынуся дзіўнай цішынёю
Бліз вёсачкі, што грэе сорак душ.

Лясоў і рэк высокая свабода,
Мне не з пляча з табою быць на «ты».
Спакон вякоў натуршчыца-прырода
Баялася людское слепаты.

О колькі пад нагамі красак стлела!
О колькі незаўважана цвіце!
Душа, ты, як ад болю, прасвятлела,
Ты нібы зноў купаешся ў рацэ.

* * *

Слоў медзякі... Пачуццяў бранзалеткі...
Іграй, святло! Струмень, любові ток!
Душа, ты напрасілася ў паэткі?
Глыбей, з гадамі, чую твой аброк.

О ты, чаўночак сельскае хаціны,
Вяртай мяне ды на свае кругі!
Прайшлі вякі, баталіі, карціны...
Каму ж і чым не сплочаны даўгі?

На карце міру хто паставіць кропку —
Празорлівы палітык ці паэт?
Яшчэ не ўсе раскрыліся раскопкі
Загінуўшых ад хіжасці планет.

А свет ізноў — спакусы ды інтрыгі,
А свет ізноў на вастрыні падзей.
...Мае вярыгі — будучыя кнігі,
Я думаю пра вас, як пра людзей.

* * *



Не трэба мне ўсмешкі маёвай,
Не трэба, каб словы цвілі.
...Каханне маё,
                    ты суровай
Работай мяне надзялі!

Да стомы, да горкага поту
Зліюцца вякі і вякі.
Я рану закрыю работай
І выдыхну ў неба радкі.

## ВЕРШ,
## НАПІСАНЫ Ў ЦЫРУЛЬНІ

Шчэ ні агонь, ні скруха не лякае,
Але чаму схіліўшыся ніжэй,
Цырульнік вас трывожнымі рукамі
Бязбожна так і клопатна стрыжэ!

Маёй вясны далёкай адгалоскі...
І я ужо сачу праз ціхі боль,
Як ападаюць пышныя прычоскі —
Русявыя. І чорныя, што смоль.

Таму шапчу услед на голас звонкі,
На смех ваш безаглядна-малады:
Радзімыя, шчымлівыя жаўронкі,
Дай бог сустрэць мне вас праз два гады!

Шчаслівае дарогі вам і пошты,
Хай вас цяпло радзімы сагрэе.
...Ад першай кулі гінуць. Ад апошняй.
Не па-мі-рай-це!.. хлопчыкі мае.

## ВІШНЯ



Ясельда. І кладачка, як прасла,
Зоўнае зязюліна «ку-ку».
Молада. Зажурана. І ясна.
Ціха, бы ў таежным тупіку.

Дзесьці спее сонная залева
І чакае лодачка вясла.
Берагам пакатым ходзіць Ева —
Заатэхнік нашага сяла.

Вішня ў квеце, цененькае дрэва
Да смугі — адкрытае вясне.
Жэўжыкі гукаюць «Калалева!».
Каралева? А чаму ж і не!

Гэй, дружочкі, хто аклікне Еву,
Хто пашле сардэчны ёй прывет?
Ані вецярочка, ні — павеву...
Ападае сам вішнёвы цвет.

## СВЯТА ПІРАГА

Пірог спякла, ды ўспомніла шайморы,
Бяздомнасці сівыя палыны...
Ты плачаш, мама? (Год ідзе каторы,
Каторы час ідзе пасля вайны!)

Ты ўся гарыш, нібы пасля застуды,
Як за акном — пякуча-алы мак.
Мне страшна так, што я бягу да студні,—
Вядро ж не набіраецца ніяк!

Нясу, нарэшце, менш чым паўвядзерца —
Вада, чамусьці, плешча цераз край!
Маёй журбы сярэбранае сэрца,
Ты пачакай. Я хутка. Пачакай!

Пагодны май і светлыні даволі.
Святочны май. І свята пірагоў.
Ды ўбачу, як расце яшчэ на полі
Наш горкі хлеб. І горкая любоў.

## ТАМУ ШТО
## СНЕГ КЛАДЗЕЦЦА ГАЛУБІНЫ



Дыхне вясной з абуджаных двароў,
І голас жаўры данясецца з поля.
Усё жыццё — паэзія і кроў,
Усё жыццё — трыванне і спатоля.

Варушыць вецер зніклае галлё,
Ды толькі мне спасланы жалю гукі.
Як дрэва апусцелае галлё,
Заломвае мая свабода рукі.

Усё было, было ў мяне, апроч
Твайго крыла, пляча твайго, адзіны.
Але пабач, якая сёння ноч
І як сняжок злятае галубіны!

З бруі крынічнай голас твой ляплю,
Перабіраю струны-успаміны,
Таму што так абвострана люблю,
Таму што снег кладзецца галубіны.

ЗМЕСТ

Святло . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5
*** Арліны храм. Узмежак беразовы... . . . . . 6
*** Зялёныя ігольчатыя сосны... . . . . . . . . . 7
Тут . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 8
Пасля вайны . . . . . . . . . . . . . . . . . . 9
Салдаткі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 10
Балада калодзежа . . . . . . . . . . . . . . . 11
Паўночная зара . . . . . . . . . . . . . . . . 12
*** Так п'ю з крыніцы, быццам не піла... . . . . 13
*** Поўнік у акне. Святло і ціш... . . . . . . . 14
Павел і Нікан . . . . . . . . . . . . . . . . . 15
Як называюцца слёзы . . . . . . . . . . . . . . 16
Сава і Марыя . . . . . . . . . . . . . . . . . 17
Пра балота . . . . . . . . . . . . . . . . . . 19
Пра назвы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 20
Ноч на Прыпяці . . . . . . . . . . . . . . . . 21
Вуздэчка і шумёлы . . . . . . . . . . . . . . . 22
Імя па бацьку . . . . . . . . . . . . . . . . . 23
Неслух . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 24
Дуня . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 25
Дурная Ганна . . . . . . . . . . . . . . . . . 26
Не варта . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 27
Красная цана . . . . . . . . . . . . . . . . . 28
Адносна культа . . . . . . . . . . . . . . . . 29
Прага крыла . . . . . . . . . . . . . . . . . . 30
Па дарозе ў Дастоева . . . . . . . . . . . . . 31
Прадзед Фёдар, конь і паэзія . . . . . . . . . 32
Слова . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 33
Ушацкая калыханка . . . . . . . . . . . . . . . 34
У чабору спытай . . . . . . . . . . . . . . . . 36
Пачатковая школа . . . . . . . . . . . . . . . 37
Калядкі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 38

Пярсцёнак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 39
Серада . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 40
«Блакітная Лагуна» . . . . . . . . . . . . . 41
На хатынскай зямлі з замежнымі турыстамі . . 42
Духавыя аркестры . . . . . . . . . . . . . . 43
*** Ружовы цвет і хараство садоў... . . . . . . . 44
Індзіра . . . . . . . . . . . . . . . . . . 45
Розум . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 46
Маё адно-адзінае світанне . . . . . . . . . . 47
Паэт . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 56
*** Глыбы думак. Праху глыбы... . . . . . . . . 57
Тарасаў шлях . . . . . . . . . . . . . . . 58
Беларусь. Андрэй Вазнясенскі . . . . . . . . 59
Масква — Парыж — Маякоўскі . . . . . . . . . 60
Чытаючы балгарскую паэзію ў перакладах Ніла Гілевіча . . . . . . . . . . . . . . . . . 61
Пра Галгофу . . . . . . . . . . . . . . . . 62
Мтацмінда . . . . . . . . . . . . . . . . . 63
Старэйшыя мае . . . . . . . . . . . . . . . 64
*** Не прад'явіць віны пасля... . . . . . . . . 65
Часіны года . . . . . . . . . . . . . . . . 66
Над сынавым глобусам . . . . . . . . . . . . 67
Зорная паэма . . . . . . . . . . . . . . . 68
Мама і птушкі . . . . . . . . . . . . . . . 79
Клопат . . . . . . . . . . . . . . . . . . 80
Зялёны жар . . . . . . . . . . . . . . . . 81
Odi et amo . . . . . . . . . . . . . . . . 82
Давыд-Гарадок у час паводкі . . . . . . . . . 83
Дакосіны . . . . . . . . . . . . . . . . . 84
У 300 кіламетрах ад Мінска . . . . . . . . . 85
Прытча пра бочку . . . . . . . . . . . . . . 86
Парфен і Хведар . . . . . . . . . . . . . . 87
Мацей і Пцімея . . . . . . . . . . . . . . . 88
Камень . . . . . . . . . . . . . . . . . . 89
Каліна зімы . . . . . . . . . . . . . . . . 90
Прызнанне вачамі . . . . . . . . . . . . . . 91
*** Куды ні гляну — гурбы маразоў... . . . . . . 98

Да Вас . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 99
Два гады назад . . . . . . . . . . . . . . . . . . 100
Па шчырасці, уніз . . . . . . . . . . . . . . . . 101
Усё выдатна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 102
Стрыжы начныя . . . . . . . . . . . . . . . . . . 103
Мыццё акна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 104
Фенікс . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 105
Брат . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 106
Пасля траўмы . . . . . . . . . . . . . . . . . . 107
Падманваю сябе . . . . . . . . . . . . . . . . . 108
Жывульнік . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 109
Дома . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 110
*** Крутыя берагі... . . . . . . . . . . . . . . 111
У садзе маіх летуценняў . . . . . . . . . . . . 112
*** Недалюбіла? Не, не палюбіла... . . . . . . . 113
*** Аблокі, нібы воўна... . . . . . . . . . . . . 114
Адзіночны лік . . . . . . . . . . . . . . . . . 115
Свята масак . . . . . . . . . . . . . . . . . . 116
*** Лёгка слалася дарога... . . . . . . . . . . . 117
Кантрасты . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 118
Дзякуй, Арлекіна! . . . . . . . . . . . . . . . 119
*** Сёння і вечна! — і мы са шчаслівых... . . . . 120
*** Мне б запыніцца на юрлівай косцы... . . . . . 121
Марыя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 122
*** Нясуджаны, я так скажу аднойчы... . . . . . 123
*** У цішыні зажураных алей... . . . . . . . . . 124
Па грыбы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 125
*** Шастае вятрыска па дуброве... . . . . . . . . 126
Азёрны час . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 127
20.VI.1985 г. . . . . . . . . . . . . . . . . . . 128
Зона святла . . . . . . . . . . . . . . . . . . 129
Птах . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 130
Узоры . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 131
*** Вячэрні плёс. І лодка на прыколе... . . . . . 132
Непастаяннае, як хваля . . . . . . . . . . . . . 133
Прылукі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 134
Над кнігаю сябра . . . . . . . . . . . . . . . . 135

*** Душа смуткуе, як загнаны звер... . . . . . . 136
Селезень і вуціца . . . . . . . . . . . . . . . . 137
Вы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 138
Далоні . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 139
Трава . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 140
Сяйво . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 141
Учора? . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 142
Анна Герман . . . . . . . . . . . . . . . . . . 143
А ты — Ліліт... . . . . . . . . . . . . . . . . 144
*** І шлях, што тчэцца слёзкамі зязюль... . . . . 145
*** Пазначаны светлай журынкай рабін... . . . . 146
*** Яшчэ не збыты успамін... . . . . . . . . . . 147
Савіная ноч . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 148
О, спорт! . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 149
*** Святло на волю выпускай... . . . . . . . . . 150
Элегія дома . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 151
*** Як доўга дождж ілье, а я не чую... . . . . . . 152
Я пачакаю . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 153
*** Прайшла жыцця часцінка ў перунах... . . . . 154
Спроба несентыментальнага раманса . . . . . . 155
*** Хай позняе лісце у жоўтай маркоце... . . . . 156
Гэта любоў! . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 157
Хвіліна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 158
Ты побач, тут... . . . . . . . . . . . . . . . . 159
*** Гэтыя зоркія вочы!.. . . . . . . . . . . . . . 160
Знак тайны . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 161
Кахання сад і ластаўка вясны . . . . . . . . . . 162
Світальны верш . . . . . . . . . . . . . . . . . 163
Скерца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 164
Фартысіма . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 165
Голас з акцэнтам . . . . . . . . . . . . . . . . 166
*** Ні парушынкі ў небе, ні дажджынкі... . . . . 167
*** Звіняць вясёлыя лісты... . . . . . . . . . . . 168
*** За высокай кручаю-гарою... . . . . . . . . . 169
*** Над адзінотаю ўсмак пасваволю... . . . . . . 170
Моладасць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 171
*** Не зараслі быллём гадоў паляны... . . . . . 172

Балада вяртання . . . . . . . . . . . . . . . . 173
Як прыходзяць радкі . . . . . . . . . . . . . . . 174
Метафара . . . . . . . . . . . . . . . . . . 175
Боль . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 176
*** Калі змагла б, вярнула б я не слова... . . . . 177
Ля муроў стагоддзяў . . . . . . . . . . . . . . 178
На ўсякі выпадак . . . . . . . . . . . . . . . 179
Зажураны ліст да школьнага настаўніка . . . . . 180
*** Будзе слоту абвяшчаць прагноз... . . . . . . 181
Тата . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 182
Наша поле . . . . . . . . . . . . . . . . . . 183
Радасць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 184
Застаюся каханай! . . . . . . . . . . . . . . . 185
І прыйдуць іншыя . . . . . . . . . . . . . . . 186
*** Вось так узгараецца слова... . . . . . . . . 187
Сімвалы вясны . . . . . . . . . . . . . . . . 188
На голас ліры . . . . . . . . . . . . . . . . 189
Нахіл . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 190
*** Няхай душы бяссоння будзе мала... . . . . . 191
Без ветру! . . . . . . . . . . . . . . . . . . 192
*** Такой прысні, як яблыневы сад... . . . . . . 193
Абоз . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 194
...Ты нібы зноў купаешся ў рацэ . . . . . . . . 195
*** Слоў медзякі... Пачуццяў бранзалеткі... . . . 196
*** Не трэба мне ўсмешкі маёвай... . . . . . . . 197
Верш, напісаны ў цырульні . . . . . . . . . . . 198
Вішня . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 199
Свята пірага . . . . . . . . . . . . . . . . . 200
Таму што снег кладзецца галубіны . . . . . . . 201

**Янішчыц Я.**

Я 62 Каліна зімы: Кн. лірыкі.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 206 с.: іл.

Новая лірычная кніга паэтэсы — працяг шчырай і хвалюючай размовы з сучаснікам, з людзьмі старэйшага пакалення, якое захавала мір і шчасце на зямлі, з краем, якому яна абавязана любоўю і жыццём.

Я. Янішчыц не выпадкова выбрала і назву сваёй кнігі, лейтматывам якой — фальклорны прыцягальны вобраз каліны, асабліва сугучны кахаючаму і ранімаму жаночаму сэрцу.

Я $\frac{4702120200-028}{М\ 302(05)-87}$ 67—87 ББК 84Бел 7

ЕВГЕНИЯ ИОСИФОВНА ЯНИЩИЦ

КАЛИНА ЗИМЫ

Книга лирики



Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Н. І. Семашкевіч
Мастак С. А. Кузьмар
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо
Карэктар А. Т. Глушчанка

ІБ № 2439
Здадзена ў набор 15.07.86. Падп. да друку 23.12.86. АТ 00733. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 8,39. Ум. фарб.-адб. 8,71. Ул.-выд. арк. 6,08. Тыраж 6000 экз. Зак. 2707. Цана 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.